# БАЦЬКАЎШЧЫНА



B 20 149 D

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)**

**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**

**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“) (8) München 13, Postfach 627**

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана аднаго нумару: Нямеччына** й іншыя эўрапейскія краіны — 50 фэн.; **ЗША й Канада** — 30 сант.; **Ангельшчына** — 1,5 шыл.; **Аўстралія** — 2 шыл.

**Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

Паштовае конто: Zeitung „Baćkaŭščyna“ Postscheckkonto: 8 München 215960

**ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.**

ERSCHEINT VIERTELJÄHRLICH DREI MAL

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 3 (636) | Кастрычнік (Oktober) 1966 | Год выданьня 20 (20. Jahrgang)


# Ленін і тварэньне Беларускай ССР

Падрыхтоўка да адзначэньня 50-годзьдзя савецкай улады сталася цяпер у руках партыі галоўным прапагандовым лёзунгам, якому падпарадкоўваецца праца й творчасьць усяго падсавецкага грамадзтва. Работнікам і сялянам накідаюць дадатковыя працоўныя забавязаньні й розныя спаборніцтва, арганізуюцца сустрэчы з вэтэранамі рэвалюцыі, чытаецца безьліч лекцыяў і дакладаў, газэты й часапісы стварылі адмысловы рубрыкі й разьдзелы, прысьвечаныя гэтаму 50-годзьдзю. Адным словам — чарговая кампанія, якая мае на мэце падняць працоўны энтузіязм, узмоцніць партыйны савецкі «патрыятызм». У гэтую кампанію, як і пры ранейшых падобных кампаніях, уцягнутыя й людзі разумовай працы. Трэба-ж неяк абгрунтаваць тэарэтычна, аформіць мастацка «дабрадзействы» кампартыі за час ейнага 50-гадовага панаваньня…

Пільна ўлучыўся ў гэтую кампанію беларускі гісторык, кандыдат юрыдычных навукаў Вадзім Круталевіч. Як відаць зь ягоных артыкулаў, ён паставіў сабе заданьне даказаць пазытыўны асабісты ўдзел Леніна ў справе стварэньня беларускай нацыянальнай савецкай дзяржаўнасьці. Круталевічу ўдалося адшукаць у маскоўскіх архівах некалькі новых дакумантаў, якія ён шырока выкарыстоўвае цяпер для падмацаваньня свае тэзы. Маецца на ўвазе артыкул Круталевіча ў 9-ым нумары часапісу «Полымя», пераказ гэтага артыкулу ў «Настаўніцкай газэце» з 21-га верасьня, а таксама агоныя ранейшыя артыкулы ў гэтых друкаваных органах.

Трэба сказаць, што адшуканыя Круталевічам дакуманты сапраўды цікавыя. Але каб яны пацьвярджалі выстаўленыя Круталевічам тэзы — гэтага сказаць ніяк нельга. Дакуманты датычаць пэрыяду першага абвешчаньня БССР першага студзеня 1919 году, ліквідацыі гэтай БССР і стварэньня Літ-Белу, ліквідацыі Літ-Белу і паўторнага абвешчаньня БССР. Артыкулы Круталевіча заслугоўваюць увагі таму, што ён пачаў больш падрабязна апісваць і аналізаваць той пачатковы пэрыяд савецкай палітыкі ў дачыненьні да Беларусі, як. яшчэ нядаўна амаль зусім прамоўчваўся ў савецкай гістарычнай літаратуры. На гэтае прамоўчваньне былі свае важкія прычыны. І гэта вельмі ўскладняе справу гісторыку Круталевічу. Ускладняе настолькі, што ў ягоных артыкулах факты гавораць зусім адваротнае да таго, што ён імкнецца даказаць.

З аднаго боку, Круталевіч намагаецца прадставіць Леніна, як абаронцу права беларускага народу на нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэньне. А з другога боку ён цытуе выказваньні й дакуманты, якія сьветчаць, што Ленін і ЦК партыі ў Маскве зусім ня імкнуліся да стварэньня беларускай нацыянальнай дзяржавы, што лёзунг самавызначэньня бальшавікі былі змушаны ўвесьці ў сваю праграму пад ціскам унутраных і вонкавых палітычных фактараў. У выпадку Беларусі гэтымі фактарамі былі: папершае, існаваньне дэмакратычнага нацыянальнага ўраду, які паўстаў у выніку імкненьня беларускага народу да адбудовы сваёй незалежнай дзяржавы, і падругое, спробы заходніх краінаў падтрымаць вызваленыя народы Расейскай імпэрыі ў аднаўленьні іхнай дзяржаўнасьці. Такім чынам, камуністычны лёзунг пра самавызначэньне народаў быў на справе толькі тактычным крокам, накіраваным супраць сапраўднага ці, паводля камуністычнай тэрміналёгіі, «буржуазнага» самавызначэньня.

Як ставіліся да беларускага нацыянальнага пытаньня Ленін, ЦК партыі ў Маскве і іхныя стаўленікі ў Беларусі. выразна паказваюць наступныя падзеі: Круталевіч піша:

«У сярэдзіне студзеня 1919 году, літаральна праз два тыдні пасьля абнародваньня Маніфэсту аб абвешчаньні Беларускай Савецкай Рэспублікі, Цэнтральны Камітэт партыі на сваім паседжаньні 16-га студзеня 1919 году з удзелам Уладзімера Ільіча разгледзеў пытаньне аб тэрыторыі Беларускай Рэспублікі. Была прызнаная неабходнасьць, каб у склад рэспублікі ўвайшлі ня ўсе пяць губэрняў былой Заходняй вобласьці, а толькі дзьве: Гродзенская і Менская. Астатнія тры губэрні — Магілеўская, Віцебская і Смаленская — павінны былі быць далучанымі да РСФСР. Пастанова гэтая была прынятая аднагалосна і. значыць, адлюстроўвала думку прысутнага на паседжаньні Уладзімера Ільіча».

Супраць адлучэньня ад БССР трох усходніх губэрняў выступілі нават партыйныя і ўрадавыя органы БССР. якія ачольваліся паслухмянымі цэнтру эмісарамі. Круталевіч цытуе працу бальшавіцкага дзеяча на Беларусі Кнорына:

«Цэнтральнае Бюро Камуністычнай Партыі бальшавікоў Беларусі і ўрад БССР не зразумелі гэтай рэвалюцыйнай стратэгіі і таму ўсімі сіламі перашкаджалі аддзяленьню ўсходніх губэрніяў, утойваючы нават згоду ЦК Расейскай камуністычнай партыі бальшавікоў на іх аддзяленьне. ЦК КП(б) Беларусі і беларускі ўрад не разумелі гэтай рэвалюцыйнай стратэгіі і тады, калі было пастаўлена пытаньне аб аб'еднанньні з Літвой».

Характэрна, што з абласных партыйных арганізацыяў найбольш супраціўляліся аддзяленьню ад БССР прадстаўнікі Смаленскай вобласьці. Але ніякія пратэсты з беларускага боку ня былі ўзятыя пад увагу. Нічога не памагла й дэлегацыя з Беларусі, якая адмыслова накіравалася ў Маскву і 31-га студзеня 1919 году мела гутарку з Ленінам адносна граніцаў БССР. У пратаколе паседжаньня запісаныя такія словы Леніна:

«Паколькі Смаленская, Віцебская і Магілеўская губэрні не гранічаць зь іншым дзяржавамі, пастолькі іх можна выключыць».

Дзіўная аргумэнтацыя. Чытаючы гэтыя дакуманты, міжволі ўсплывае пытаньне: што-ж разумеў Ленін пад самавызначэньнем народаў? Ведама, што на Беларусі бальшавікі не праводзілі ні-


**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**


# Інтэрв'ю з прэзыдэнтам Рады БНР

У першай палове кастрычніка Прэзыдэнт Рад БНР інж. М. Абрамчык наведаў Нямеччыну. У Мюнхэне Прэзыдэнт меў нараду з сэктарам Рады БНР, з сябрамі Камітэту Лігі Вызваленьня Народаў СССР, а таксама браў удзел у паседжаньнях «Кансультатыўнай камісіі» пры Радыё «Свабода».

5-га кастрычніка Камітэт Лігі апрабаваў тэкст «Паведамленьня», выпрацаванага супольна з прадстаўнікамі расейскай эміграцыйнай грамадзкасьці, якія выступаюць пад назовам «Кранштацкая Група». (Тэкст «Паведамленьня» надрукаваны на 3. стар.)

Уважаючы гэтае «Паведамленьне» значнай падзеяй у дачыненьнях паміж нерасейскімі эміграцыямі і эміграцыяй расейскай, мы зьвярнуліся да Прэзыдэнта Абрамчыка з просьбай даць адносна гэтага некаторыя тлумачэньні.

*Пытаньне:* Спадар Прэзыдэнт. Можа-б Вы паінфармавалі коратка нашых чытачоў, як дайшло да кантакту паміж Лігай і «Кранштацкай Групай» ды пра характар гэтай арганізацыі?

*Адказ:* Для «Парыскага Блёку» (афіцыйна «Ліга Вызваленьня Народаў СССР») пытаньне дасягнуць паразуменьня з расейскай эміграцыяй дзеля стварэньня супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам было найцяжэйшай справай. У гэтым кірунку былі робленыя асабліва вялікія высілкі ўлетку 1953 году. Тады актыўны ўдзел у гэтым бралі таксама аўтарытэтныя амэрыканскія палітычныя й грамадзкія дзейнікі. На працягу месяца ў Мюнхэне (цэлымі днямі, а часамі й начамі) вяліся заўзятыя спрэчкі наміж чатырма расейскімі арганізацыямі, з аднаго боку, і Парыскім Блёкам, з другога, навокал «праблемы» аб незалежнасьці нерасейскіх народаў.

Пасьля правалу гэтае канфэрэнцыі, амэрыканцы, як ведама, адмовіліся ад праектаванае ў шырокім маштабе акцыі дапамогі ў вызвольным змаганьні, затрымаўшы ў сваіх руках і Радыё «Вызваленьне», якое ўпачатку таксама мелі перадаць у поўнае распараджаньне эмігрантам народаў СССР. Пачаліся ўзаемныя абвінавачаньні за правал канфэрэнцыі: расейцы звальвалі ўсю віну на Парыскі Блёк, прадстаўнікі Блёку — на расейцаў. Зьменшаньне зацікаўленьня эміграцыйнымі палітычнымі арганізацыямі наагул — выразна адчулася ня толькі з боку амэрыканскіх колаў, але й іншых заходніх палітыкаў, якія пачалі ўважаць эміграцыі народаў СССР палітычна «недасьпелымі».

Парыскі Блёк, адылі, ня спыніў зусім захадаў, каб знайсьці сярод дэмакратычнай часткі расейскай эміграцыі такіх людзей, якія-б згадзіліся на стварэньне супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам, не пярэчачы законным нацыянальна-незалежніцкім асьпірацыям нерасейскіх народаў. Прыблізна 5 год таму на бачынах ньюёркскай газэты «Новое русское слово» нанова выбухлі спрэчкі навокал нацыянальнай «праблемы» народаў СССР. У гэтых спрэчках выявілася група расейцаў, якія занялі пазыцыі безадкладнага прызнаньня дзяржаўнай незалежнасьці гістарычным нерасейскім народам, а драбнейшым этнічным групам — у кадрах расейскай фэдэрацыі — шырокай культурна-палітычнай аўтаноміі. З групы гэтай асабліва выдзяляліся чатыры асобы — ня толькі сваім разумным падыходам да гэтай праблемы, а й палітычнай мужнасьцяй. Яны не абмежаваліся ўдзелам у спрэчках, а пачалі мабілізаваць сваіх аднадумцаў, у выніку чаго й паўстала арганізацыя пад назовам «Кранштацкая Група».

Два гады таму сябра Прэзыдыюму Лігі Вызваленьня Народаў СССР — прэм'ер украінскага экзыльнага ўраду сп. М. Лівіцкі, будучы ў Нью Ёрку, адведаў ініцыятара й лідара «Кр. Гр.» Е. Пятрова-Скітальца. Пазьнейшы абмен лістамі й публікацыямі прывёў да таго, што ад «Кр. Гр.» быў дэлегаваны з Амэрыкі ў Мюнхэн іхны паўнамоцны прадстаўнік сп. Ф. Голдвін для перамоваў з Лігай. «Паведамленьне» аб пагадненьні Лігі з «Кр. Гр.», перададзенае Вам для апублікаваньня, і ёсьць вынікам гэтых перамоваў.

Што да характару арганізацыі «Кр. Гр.», то з пункту гледжаньня ідэйна-палітычнага яны сябе залічаюць да дэмакратаў-сацыялістых, але не ў разуменьні сацыял-дэмакратаў марксыстаўскага кірунку. Ідэйна яны насьлядоўваюць Гэрцана і пераймаюць лёзунгі ведамага Кранштацкага супрацьбальшавіцкага паўстаньня 1921 году. Лёзунгам гэтага паўстаньня было: далоў бальшавізм — уся ўлада саветам, «за свабодныя саветы — без камуністых».

*Пытаньне:* Якая «Кранштацкая Група» колькасна, ці дастаткова яна рэпрэзэнтатыўная, каб выступаць ад імя расейцаў?

*Адказ:* Як мы паінфармаваныя, іхная арганізацыя налічвае каля паўсотні ся-


**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**


# Дыскусія пра савецкую нацыянальную дзяржаўнасьць

З пачатку гэтага году на старонках часапісу «Вопросы истории» вядзецца дыскусія што да пытаньня «нацыі» наагул і «сацыялістычнай нацыі» ў прыватнасьці. Побач з тэарэтычным абмеркаваньнем праблемы, гэтая дыскусія закранае таксама прынцыпы савецкай нацыянальнай палітыкі й гісторыю нацыянальных адносінаў у СССР.

Бяручы пад увагу савецкія ўмовы, гэтая дыскусія праводзіцца даволі свабодна. Бясспрэчна, ейныя ўдзельнікі мусяць прытрымоўвацца акрэсьленых догмаў, як, прыкладам, тае, што нацыя — гэта прадукт ці катэгорыя буржуазна-капіталістычнага грамадзтва. Яны мусяць таксама выслаўляць прынцыпы савецкай нацыянальнай політыкі. Па-за гэтымжа, аднак, адчуваецца сьвежасьць думкі ў паглядах на нацыю, ейныя асаблівасьці й далейшы ейны лёс у жыцьці СССР. У азарце палемікі выявіліся й больш рэалістычныя пагляды на сутнасьць савецкай нацыянальнай палітыкі, на што мы й хочам зьвярнуць увагу. Аднак перш некалькі словаў пра агульныя тэарэтычныя вынікі дасюлешняга прабегу гэтае дыскусіі.

Як ведама. дасюль нацыя разглядалася. як чыста буржуазна-капіталістычная катэгорыя. Зь зьяўленьнем сацыялізму яна мусіла адыйсьці ў нябыт. Такая дагматычная пастаноўка пытаньня цяпер аспрэчваецца. Агульна прызнаецца, што нацыя ня толькі зжываецца з сацыялізмам, але й ёсьць неразлучнай катэгорыяй і прыкметай гэтага сацыялізму. Больш таго, сьцьвярджаецца, што толькі пры сацыялізьме нацыя дасягае зэніту ў сваім усебаковым разьвіцьці й праявах. Трэба зазначыць. што ў практыцы пра штосьці падобнае гаварылася й раней, бо мы заўсёды сустракаліся з «савецкімі сацыялістычнымі нацыямі» й іхным усебаковым разьвіцьцём». Аднак адменнасьць была ў тым, што гэтыя нацыі разглядаліся як часовае зьявішча, як спадчына, атрыманая ад капіталізму, або. у лепшым выпадку, як вынік палітыкі партыі на ніве іх эканамічнага й культурнага выраўноўваньня ў працэсе іхнага канчатковага зьліцьця.

У цяперашняй дыскусіі вялікія разыходжаньні наглядаюцца ў пытаньнях, як доўга будзе й павінен працягвацца ўсебаковы росквіт савецкіх «сацыялістычных» нацыяў і ці нацыянальная дзяржаўнасьць складае адну із асноўных іхных прыкметаў. Адны з удзельнікаў дыскусіі цьвердзяць, што працэс адміраньня нацыяў у СССР — гэта праблема далёкае будучыні, тае будучыні, калі камунізм запануе ў сьветавым маштабе. Пакуль гэтага не наступіць, нацыі СССР маюць аднолькавае права на існаваньне й на далейшае разьвіцьцё. Яны таксама лічаць, што нацыянальная дзяржаўнасьць (у форме савецкіх саюзных і аўтаномных рэспублікаў) неразлучна зьвязана з існаваньнем гэтых нацыяў, зьяўляецца аднэй з асноўных прыкметаў сацыялістычнай нацыі. Іншыя ўдзельнікі дыскусіі, як, прыкладам, П. Сямёнаў, да артыкулу якога («Нация и национальная государственность в СССР» **Вопросы истории**, 1966, № 7, бб. 72—81) мы зьвернемся пазьней, усё гэта разглядаюць з чыста партыйных пазыцыяў. Яны ўважаюць, што зазначаны вышэй падыход да праблемы ў прынцыпе ёсьць паамылковым і шкодным. Памылковасьць тэзы пра нацыянальную дзяржаўнасьць як прыкмету сацыялістычнай нацыі яны бачаць, папершае, у тым, што гэтая тэза беспасярэдня выводзіцца з факту шматнацыянальнага складу СССР. абумоўліваецца гэтым фактам. Паводля іх, шмат залежыць ад практычнае палітыкі партыі, а не ад самога факту існаваньня нацыяў у СССР. Падругое, цьвердзяць яны, прыхільнікі й аўтары гэтае тэзы ня ўлічваюць «пэрспэктываў савецкага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва», г. зн. ігнаруюць партыйную праграму ў нацыянальным пытаньні. У гэтым, паводля іх, палягае шкоднасьць апошняе тэзы, бо яна не бярэ пад увагу праграмных мэтаў партыі, скіраваных на поўнае зьліцьцё савецкіх нацыяў і ў першую чаргу на ліквідацыю іхнай нацыянальнай дзяржаўнасьці й дзяржаўных межаў, што павінна папярэднічаць нацыянальнаму зьліцьцю наагул. Што-ж датычыць пытаньня, калі пачнецца працэс адміраньня нацыянальнай дзяржаўнасьці ў СССР, а з гэтым самым і працэс зьліцьця нацыяў наагул, дык тут прыхільнікі палітыкі партыі абмяжоўваюцца ведамай канстатацыяй, што гэты працэс будзе «доўгім» і будзе залежыць «ад шэрагу фактараў аб'ектыўнага й суб'ектыўнага характару». Пры гэтым яны дадаюць, што гэты працэс «ня можна ні прысьпешваць адміністратыўнымі мерамі (бо гэта можа выклікаць толькі рэцыдывы нацыяналізму), ні выстаўляць на ягоным шляху штучных перашкодаў».

Цяпер вернемся да нашае галоўнае тэмы — да разгляду ўспомненых вышэй «рэалістычных паглядаў» на сутнасьць савецкае нацыянальнае палітыкі.

Чытаючы адпаведную савецкую літаратуру, мы не маглі не заўважыць наяўнасьці некалькіх спосабаў у выкрыўленьні так званай «ленінскай» нацыянальнай палітыкі партыі. Найбольш пашыраны зь іх характэрны голым пералічэньнем некаторых ведамых праграмных прынцыпаў, як «права народаў Расеі на свабоднае самавызначэньне» ці «права свабоднага выхаду з СССР», на аснове якіх потым будавалася «дабрадзейнасьць» нацыянальнай палітыкі Леніна, ейная пасьлядоўнасьць і прынцыповасьць. Іншыя праграмныя дакуманты бальшавікоў, як, прыкладам, «Резолюция по национальному вопросу» Паронескае нарады ЦК РСДРП(б) з 1913 году, праграмны артыкул Леніна «Критические заметки по национальному вопросу», ягоны ведамы ліст да С. Шаўмяна з канца таго-ж 1913 году або зусім пад увагу не браліся, або інтэрпратаваліся ў тым-жа духу «дабрадзейнасьці». Між тым у апошніх праграмных дакумантах «права народаў на свабоднае самавызначэньне» зводзілася да чыста палітычнага трыку, да «праграмных словаў», якіх ня выпадала палохацца. Яны катэгарычна адкідалі як магчымасьць перабудовы расейскае імпэрыі на фэдэратыўных пачатках, так і магчымасьць дапушчэньня культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Калі-ж часамі прыходзілася крыху прыадкрываць карты, дык тут пускаліся ў ход «вышэйшыя прынцыпы змаганьня за сацыялізм», «адмоўныя адносіны» працоўнае клясы ўсіх народаў да нацыянальнае праблемы, «агентура» замежнага імпэрыялізму ў асобе «буржуазных нацыяналістых» і г. д. Праўда, апошнім часам там-сям паказваюцца хібы савецкай нацыянальнай палітыкі, аднак «сьвятыня» Леніна ўсьцяж выгараджваецца, а гэтыя хібы адносяцца да звычайных непаразуменьняў або навет і да злоўжываньняў ленінскімі прынцыпамі.

Ставячы перад сабой заданьне разьбіць тэзу, што прынцыпы савецкага дзяржаўнага фэдэралізму, нацыянальная дзяржаўнасьць савецкіх «сацыялістычных» нацыяў і наагул асновы савецкай нацыянальнай палітыкі абумоўлены самым фактам шматнацыянальнага складу СССР, ды што нацыянальная дзяржаўнасьць дапаўняе сацыялістычную нацыю, успомнены вышэй П. Сямёнаў крыху больш углыбляецца ў гісторыю бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі. Ён зыходзіць з аналізу праграмных дакумантаў, у якіх зафіксаваліся адносіны бальшавікоў і самога Леніна да фэдэрацыі й іхнае разуменьне ўжываннага імі тэрміну «нацыянальна-тэрытарыяльная аўтаномія». Выснаў П. Сямёнава той, што «ні нацыянальна-тэрытарыяльная аўтаномія, ні дзяржаўная фэдэрацыя ня былі да Кастрычніцкай рэвалюцыі собскім праграмным патрабаваньнем бальшавіцкай партыі». Калі прынцып перабудовы расейскай імпэрыі на фэдэратыўных асновах наагул адкідаўся бальшавікамі, дык «нацыянальна-тэрытарыяльная аўтаномія» ўяўлялася фактычна як абласная аўтаномія ці аблас-


**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

# Індустрыялізацыя й „працоўныя рэсурсы“ ў БССР

Праблема «працоўных рэзэрваў» у СССР ад некаторага часу сталася аб'ектам абмеркаваньня ў савецкай прэсе. Няпоўная, нерацыянальная занятасьць людзкой працоўнай сілы на вёсцы, лішкі працоўных рук на прадпрыемствах, цяжкасьці з уладкаваньнем на працу моладзі — гэта праблемы, якія ў некамуністычным сьвеце называецца проста беспрацоўем. Савецкі афіцыйны лексыкон ня любіць тэрміну «беспрацоўе» ў дачыненьні да праблемаў працоўнай сілы ў СССР. Але, як-бы мы гэтае зьявішча не называлі, яно бясспрэчна існуе і ў Савецкім Саюзе.

Існуе яно і ў Беларусі. Але ў Беларусі праблема занятасьці мае свае спэцыфічныя аспэкты й прычыны. Пра іх можна даведацца, прачытаўшы ў 8-ым нумары часапісу «Полымя» артыкул Андрэя Ракава пад загалоўкам «Працоўныя рэсурсы». Ракаў разглядае структуру й разьмяшчэньне працоўных рук на нашай Бацькаўшчыне, ступень занятасьці насельніцтва цяпер і аналізуе магчымасьці працаўладкаваньня ў будучыні. Ракаў пры гэтым падае некалькі канкрэтных і цікавых фактаў.

У Беларусі слаба занятыя ў вытворчасьці жанчыны. Статыстычнае дасьледваньне, праведзенае ў гарадох Беларусі, паказала, што аднэй з галоўных прычынаў, якія перашкаджаюць прыцягненьню жанчын да грамадзка-вытворчай працы, зьяўляецца недастатковая забясьпечанасьць гарадоў Беларусі дзіцячымі дашкольнымі ўстановамі. Гэтых установаў у Беларусі ў 2-3 разы менш за норму.

Ракаў слушна сьцьвярджае, што для стварэньня адпаведнай колькасьці месцаў працы неабходныя капіталаўклады як для разбудовы базы матарыяльнай вытворчасьці, так і для нявытворчага сэктару, гэта значыць для сацыяльнага й культурна-бытавога абслугоўваньня. Ракаў адзначае, што паводля ўзроўню сацыяльнага й культурна-бытавога абслугоўваньня Беларусь значна адстае ад Прыбалтыкі, Украіны і ад сярэдніх паказьнікаў па ўсім СССР. Адзначым, што і ўзровень індустрыялізацыі Беларусі таксама шмат ніжэйшы ад сярэдняга ўсесаюзнага ўзроўню. Зусім зразумела, што стварэньне новых месцаў працы будзе залежаць ад павялічэньня капіталаўкладаў ў абодва сэктары. Але гэтага пытаньня Ракаў непасрэдна не закранае. Затое ён зьвяртае ўвагу на іншую, таксама надзвычай важную праблему — на тэрытарыяльнае разьмеркаваньне прамысловасьці паводля наяўнасьці працоўных рэсурсаў. Ён піша:

«Важную ролю ў забясьпячэньні поўнай і рацыянальнай занятасьці насельніцтва адыгрывае тэрытарыяльнае разьмеркаваньне й выкарыстаньне працы. Разьмеркаваньне насельніцтва на тэрыторыі арганічна зьвязана з разьмяшчэньнем вытворчасьці і перш за ўсё прамысловасьці. Рацыянальнае разьмяшчэньне вытворчасьці й працоўнай сілы па тэрыторыі рэспублікі зьяўляецца аднэй з найважнейшых народнагаспадарчых праблемаў. Пераразьмеркаваньне працоўнай сілы непасрэдна залежыць ад плянаваньня капіталаўкладаньняў у прамысловае, жыльлёвае й культурнае будаўніцтва, ад міжраённай і міжгаліновай дыфэрэнцыяцыі заработнае платы і іншага».

Ракаў падкрэсьлівае, што дасюль не зьліквідаванае яшчэ адставаньне ў прамысловым разьвіцьці заходніх вобласьцяў Беларусі. У 1964-ым годзе на 36 працэнтаў насельніцтва заходніх акругаў прыпадала толькі 20 працэнтаў агульнарэспубліканскай прадукцыі. З другога боку, прамысловасьць разьмяшчалася пераважна ў абмежаванай колькасьці гарадоў: Менску, Гомелі Віцебску, Полацку. Бабруйску, Баранавічах і некаторых іншых гарадох. Гэтак, напрыклад, у шасьці гарадох Менскай і Віцебскай вобласьцяў сканцэнтравана 80 працэнтаў усёй прамысловасьці гэтай тэрыторыі, а на 78 іншых гарадоў гэтых вобласьцяў прыпадае толькі 20 працэнтаў прамысловасьці. Ракаў слушна спасылаецца на прыклады перадавых індустрыяльных краінаў Захаду — ЗША, Ангельшчыны й Японіі, а таксама на дасьветчаньне Чэхаславаччыны, дзе апошнімі гадамі пераважная бальшыня ўсіх новых прадпрыемстваў будуецца ў малых гарадох, прыгарадах і сельскай мясцовасьці.

Далей Ракаў падае такія меркаваньні: «Практыка канцэнтрацыі вытворчасьці ў вялікіх і буйных гарадох на шкоду пераважнай бальшыні малых і сярэдніх гарадоў, бадай, не дае аптымальнага вырашэньня эканамічных заданьняў, у тым ліку й заданьня поўнай занятасьці насельніцтва. Цяпер у малых і сярэдніх гарадзкіх паселішчах рэспублікі ўдзельная вага занятых у дамашняй і асабістай дапамаговай гаспадарцы ў 2.2 раза перавышае ўдзельную вагу вялікіх і буйных гарадоў. Маштабы народнагаспадарчых стратаў у выніку гэтага можна пэўным чынам уявіць сабе, калі ўлічыць, што працоўныя рэсурсы малых і сярэдніх гарадоў складаюць звыш палавіны агульнай колькасьці працоўных рэсурсаў гарадоў рэспублікі наагул. З улікам-жа сацыяльнага аспэкту страты, мусіць, будуць яшчэ больш адчувальныя».

Зусім ясна, што каб унікнуць стратаў ад скапленьня прамысловай вытворчасьці ў некалькіх цэнтрах, трэба яе разьмяшчаць па меншых гарадох, мястэчках і пасёлках, якія маюць адпаведныя эканамічныя й прыродныя ўмовы, а перш за ўсё рэзэрвы працоўнай сілы. Беларускія эканамістыя сьцьвердзілі, што ў Беларусі ёсьць каля паўсотні малых і сярэдніх гарадоў з адпаведнымі ўмовамі для разьвіцьця розных відаў індустрыі.

Пад поглядам індустрыялізацыі асабліва занядбаная беларуская вёска, якая да гэтага часу бесперапынна эксплуатуецца дзяржавай на карысьць індустрыялізацыі буйнейшых гарадоў. Тымчасам больш за палавіну насельніцтва Беларусі — гэта сялянства. Якраз сялянства ня можа з карысьцяй для сябе й грамадзкасьці ў цэлым прыкласьці сваіх рук. Загнанае ў калгасны прыгон, яно не зацікаўленае ў павышэньні прадукцыйнасьці свае працы ў калгаснай гаспадарцы. Ня гледзячы на ўсе дасюлешнія рэформы, сяляне не адчуваюць належнага матарыяльнага стымулу для павялічэньня сваіх высілкаў. Сучасная сельскагаспадарчая сыстэма патрабуе грунтоўнай рэформы. Але беларускае сяло, як і сялянства ўва ўсім сьвеце, мае сталыя клопаты, зьвязаныя з сэзоннасьцяй сельскагаспадарчых працаў. У зімовыя месяцы нават энтузіястыя калгаснай справы часта апынаюцца бяз працы. Спэцыялістыя прыпушчаюць, што ў зімовы час у Беларусі застаецца бяз працы і магчымасьці заробку некалькі сотняў тысяч працаздольных сялян. Каб зьліквідаваць гэта, цяпер заплянаваная дзяржавай арганізацыя дапамаговых прадпрыемстваў і промыслаў для перапрацоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў, вытворчасьці будаўнічых матарыялаў, тавараў народнага спажываньня на базе мясцовай сыравіны. Гэта, бясспрэчна, пазытыўная пастанова. Шкада, што партыйны дагматызм не дазваляў рабіць гэтага раней. Але адных пастановаў мала. Аграбленай і зруйнаванай вёсцы патрэбная вялікая фінансавая дапамога. Такую дапамогу цяпер абяцаюць. Але ці хопіць яе, калі, напрыклад, беларуская сельская мясцовасьць да гэтага часу найменш электрыфікаваная ўва ўсім Савецкім Саюзе.

Трэба ўрэшце даць магчымасьць сельскаму жыхарству арганізаваць прыватную абслугу, прыватныя майстэрні й дробныя прадпрыемствы і дазволіць яму збываць сваю прадукцыю на вольным рынку. Партыйнае кіраўніцтва на прыкладзе Югаславіі, Польшчы й іншых «народных дэмакратыяў» ўжо, хіба, пераканалася, што значыць прыватная ініцыятыва.

У сваю чаргу, пабудова прамысловых прадпрыемстваў, установаў бытавога абслугоўваньня ў меншых гарадох і мястэчках забясьпечыла б працай рэшту вольных рук сельскага жыхарства.

Каб добра расплянаваць і ажыцьцявіць дзяржаўнае прамысловае будаўніцтва, патрэбная, апрача матарыяльна-тэхнічных сродкаў і працоўных рук, шырокая свабода мясцовай ініцыятывы. У часе й пасьля апошняй рэформы кіраваньня савецкай прамысловасьці шмат гаварылася пра тое, што рэспубліканскія гаспадарчыя органы атрымалі цяпер шырокія правы для вызначэньня месца й профілю новых прамысловых прадпрыемстваў на сваіх тэрыторыях. На справе-ж правы гэтыя зьнікомыя. Трэба дамагацца іхнага пашырэньня. З артыкулу Ракава відаць, што дасюлешняе плянаваньне зьверху, з Масквы, разьміналася з элемэнтарнымі вымогамі эканомікі.

Трэба ўрэшце пакончыць і зь яшчэ аднэй бязглуздай практыкай. Да гэтага часу праблема гэтак званых «лішкаў» працоўнай сілы ў Беларусі вырашалася шляхам адміністрацыйнага перасяленьня беларускай моладзі і цэлых сем'яў на далёкія, неабжытыя заўральскія прасторы. У гэты-ж час прамысловыя цэнтры беларускіх гарадоў засяляліся іншанацыянальным элемэнтам. Партыйная прапаганда называла й называе гэта «абменам кадрамі» і гэты «абмен» ўсякім спосабам стымулявала як сродак «інтэрнацыянальнага выхаваньня працоўных». Але гэтае мерапрыемства не апраўдвае сябе ні з эканамічнага, ні з маральнага пункту гледжаньня. З эканамічнага пункту гледжаньня, перакідваньне людзей за сотні й тысячы кілямэтраў прыносіць толькі страты. Вырываньне-ж людзей з роднага асяродзьдзя, свайго абжытага кутка — стварае духовыя раны, якія ніяк ня могуць спрыяць гэтак званаму «інтэрнацыянальнаму выжаваньню». Кожны чалавек ахватней і больш прадуктыўна працуе сярод свайго й для свайго народу.

Таму разьмяшчэньне прамысловасьці ў месцах знаходжаньня працоўнае сілы — адзіны разумны й справядлівы падыход пры разьвязаньні праблемы працоўных рэсурсаў Беларусі.

**М. Кручкоўскі**

# Інтэрв'ю з прэзыдэнтам Рады БНР

**(Заканчэньне з 1-ай бач.)**

броў. У сэньсе інтэлектуальных сілаў яна непараўнальна мацнейшая за былую арганізацыю Керанскага падчас ягоных перамоваў з Парыскім Блёкам (сёньня група Керанскага самазьліквідавалася, а тады налічвала 40 чалавек). «Кр. Гр.» мацнейшая ў гэтым сэньсе і за групу Расейскай Сацыял-дэмакратычнай партыі, якая пасьля сьмерці Абрамовіча, Зензікова, Нікалаеўскага трымаецца амаль на адным Шварцы (праўда, выдатным журналістым) і пары дзесятках звычайных сяброў. Сярод *дэмакратычнага*, калі можна так назваць, сэктару расейскай эміграцыі «Кр. Гр.» зьяўляецца найбольш рэпрэзэнтатыўнай, каб не сказаць адзінай рэпрэзэнтатыўнай.

*Пытаньне:* У пункце 6а «Паведамленьня» гаворыцца пра жаданьне «Кранштацкай Групы» стварыць у будучыні на тэрыторыі цяперашняга Савецкага Саюзу «Супольнасьць» незалежных рэспублікаў. У той-жа час Ліга апавяшчае сваё імкненьне да аднаўленьня на тэрыторыі сваіх народаў зусім незалежных дэмакратычных дзяржаваў. Ці гэтыя разыходжаньні ў плянах на будучыню ня выключаюць супольных выступленьняў у сучасны мамэнт?

*Адказ:* «Кранштацкая Група» ўважае сваім ідэалам, каб у будучыні былі створаныя найцясьнейшыя й найбольш прыязныя ўзаемадачыненьні паміж незалежнымі дзяржавамі, якія адродзяцца на тэрыторыі сёньняшняга СССР. Гэта яны называюць «Содружеством» цалкам незалежных рэспублікаў. Форму гэтага «Содружества» яны ўяўляюць як нешта блізкае да Брытанскага «Комэнвэлтзу». Але «Кр. Гр.» ня ставіць Лізе перадумовай прыняцьце гэтае іхнае канцэпцыі. У асноўным яны цалкам пагаджаюцца з тым, што аб форме міждзяржаўных дачыненьняў пастановяць заканадаўчыя органы, выбраныя дэмакратычным шляхам у кожнай незалежнай дзяржаве.

*Пытаньне:* Кожная новая палілычная ініцыятыва мае звычайна нейкую канкрэтную пазытыўную мэту. Чаго думае дасягнуць Ліга, дэкляруючы сваё супрацоўніцтва з расейскай групай?

*Адказ:* Найперш — паралiжаваць бальшавіцкую прапаганду сярод народаў СССР, быццам нацыянальныя эміграцыі па сваёй прыродзе зьяўляюцца арганічнымі ворагамі *ўсяго расейскага народу*, што пад нашымі дачыненьнямі да расейскага народу мы ўяўляем «рэзаньне маскалёў», што быццам мы імкнемся да ўлады, якую спадзяемся атрымаць шляхам чужаземнай ваеннай інтэрвэнцыі. Голас «Кранштацкай Групы» ад імя супольнага з намі фронту, як голас расейцаў да расейцаў, здолее эфэктоўна супрацьдзеіць ня толькі бальшавіцкай прапагандзе супраць нас, але й падобнай-жа прапагандзе расейскай «адзінанедзялімскай» эміграцыі ў вольным сьвеце.

*Пытаньне:* Якую забавязваючую сілу мае для абодвух бакоў прынятае супольнае «Паведамленьне»?

*Адказ:* Пагадненьне гэтае нельга ўважаць за дакумант, які поўнасьцяй нармуе ўзаемадачыненьні паміж Лігай і «Кранштацкай Групай». Яго трэба разглядаць як дамоўленасьць у асноўных прынцыповых пытаньнях, што дае змогу Лізе і «Кр. Групе» праводзіць супольныя акцыі ў змаганьні за вызваленьне нашых народаў ад бальшавіцкай тыраніі.

*Пытаньне:* Ці маглі-б Вы, сп. Прэзыдэнт, сказаць нешта пра канкрэтныя формы далейшага супрацоўніцтва з «Кранштацкай Групай»?

*Адказ:* Наразе Цэнтральны Камітэт Лігі на сваім паседжаньні 5. кастрычніка г. г. пастанавіў давесьці да ведама грамадзтва народаў рэпрэзэнтаваных у Лізе зьмест супольнага «Паведамленьня». Тэкст «Паведамленьня» перакладзены на ангельскую, францускую й нямецкую мовы для пашырэньня яго ў вольным сьвеце. Прынятая таксама пастанова аб выпрацаваньні супольнага звароту Лігі і «Кранштацкай Групы» да народў СССР. Дамовіліся, што Ліга будзе трымаць цесны кантакт з «Кр. Групай» ды аб узаемным абмене інфармацыямі.

# Калгасы й прыватныя гаспадаркі

У газэце «Зьвязда» з 14-га жнівеня быў зьмешчаны артыкул аб справе Генадзя Дзергая з вёскі Лецкаўшчына менскага раёну. Дзергая судзілі за забойства калгаснага брыгадзіра. Паводля асьветчаньня падсуднага, ён застрэліў брыгадзіра за тое, што брыгадзір самавольна абрэзаў прысядзібную зямельную дзялянку ягонай маці-калгасьніцы. Падсудны Дзяргай быў засуджаны на расстрэл.

Аўтар артыкулу ў «Зьвязьдзе» Мялешка малюе падсуднага як прыроджанага злачынцу, падае пералік ягоных ранейшых злачынных паводзінаў. Робіць ён гэта выразна дзеля таго, каб апраўдаць суровы прысуд. Я ня буду тут спыняцца над тым, ці такі суровы прысуд апраўданы ці не. Але прычына забойства, якую падаў падсудны, змушае задумацца. Няўжо зьменшаньне прысядзібнай дзялянкі калгасьніка так цяжка адбіваецца на матарыяльным палажэньні калгаснай сям'і, што можа стацца нават прычынай забойства?

Ня ведаючы абставінаў гэтага здарэньня, пакінем факт забойства збоку, а разгледзім першае пытаньне: якую ролю адыгрывае ўласная дапамаговая гаспадарка ў жыцьці падсавецкага грамадзяніна?

Скажам адразу, што вялізарную! Для вялікай часткі насельніцтва Беларусі — гэта адзіная крыніца існаваньня. Апошнім часам гэтую праўду прызнала ўскосна й камуністычная партыйная верхавіна, даўшы некаторыя гарнтыі далейшага існаваньня дапамаговым гаспадаркам калгасьнікаў, работнікаў і служачых. Пасьля гэтага і прэса пачала больш свабодна й адкрыта пісаць пра значэньне прыватных гаспадарак.

Прапаную нашым чытачом пазнаёміцца з артыкулам Логінава, зьмешчаным у сёлетнім другім нумары «Весьцяў Акадэміі навук БССР» пад загалоўкам «Эканамічная роля асабістай дапамаговай гаспадаркі». У артыкуле зьмешчаныя цікавыя дадзеныя пра значэньне дапамаговых, ці, як іх называюць у савецкай прэсе, «падсобных» гаспадарак у Беларусі. У артыкуле, між іншага, чытаем:

«Пытаньню аб ролі асабістай падсобнай гаспадаркі ў вытворчасьці прадуктаў харчаваньня і ў забясьпячэньні задавальненьня асабістых патрэбаў калгасьнікаў, рабочых і служачых у эканамічнай літаратуры ўдзяляецца вельмі мала ўвагі. Да таго-ж рад аўтараў у сваіх работах няправільна трактуе ролю асабістай падсобнай гаспадаркі на сучасным этапе...

Няправільнае разуменьне ролі асабістай падсобнай гаспадаркі... зьявілася асновай для абгрунтаваньня вывадаў аб неабходнасьці абмежаваньня асабістай падсобнай гаспадаркі ў цяперашні момант, хоць эканамічныя ўмовы для пакрыцьця выраблямых у ёй прадуктаў за кошт грамадзкай вытворчасьці яшчэ не пасьпелі.

Аб тым, што ў сучасных умовах абмежаваньне вытворчасьці сельскагаспадарчых прадуктаў у асабістай падсобнай гаспадарцы насельніцтва зьяўляецца заўчасным, сьветчаць даныя аб удзельнай вазе гэтай катэгорыі гаспадарак у агульным аб'ёме сельскагаспадарчай прадукцыі БССР... На долю асабістай падсобнай гаспадаркі насельніцтва ў Беларусі прыпадае **звыш палавіны вытворчасьці важнейшых прадуктаў харчаваньня»** (падкр. — Ю. Д.)

Далей у артыкуле зьмешчаная табліца, якая паказвае працэнт прадуктаў, што далі асабістыя гаспадаркі грамадзян Беларусі ў 1964-ым годзе ў параўнаньні з калгасна-саўгаснай вытвор-

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

# Ленін і тварэньне Беларускай ССР

**(Заканчэньне з 1-ай бач.)**

якага апытаньня народу, яны нават ня лічыліся з думкай сваіх-жа партыйных органаў, якія былі больш азнаёмленыя з настроямі Беларусаў. Найбольш жыцьцёвыя інтарэсы нацыі самавольна вырашаліся ў той ці іншы бок адным росчыркам пяра партыйнага кіраўніка ў Маскве ў імя нейкіх вышэйшых рэвалюцыйных мэтаў.

Вось яшчэ адзін характэрны факт. Даем слова Круталевічу:

«Вынікі паездкі ў Маскву і гутаркі з Ленінам (беларускія) дэлегаты паведамілі 31-га студзеня 1919 году Цэнтральнаму Бюро КП(б) Беларусі. Да гэтага часу ў Менску атрымалі новую тэлеграму Сьвярдлова. Старшыня ВЦВК паведамляў ураду Беларусі: „Дэлегатам Цэнтральнага Бюро самым рашучым чынам было адмоўлена ў адмене пастановы ЦК. Пацьвярджаю: Віцебская, Магілеўская, Смаленская (губэрні) адыходзяць. Застаюцца ў Беларусі дзьве губэрні: Менская, Гродзенская. Дадаю рашэньне ЦК правесьці на зьезьдзе Беларусі аб'еднаньне з Літвой, высылаю адпаведныя ўказаньні Міцкевічу. Магчыма прыеду на зьезд».

Вось лексыкон, якім карыстаўся ленінскі ЦК пры разьвязваньні беларускага пытаньня: «рашучым чынам адмоўлена... даю рашэньне... высылаю ўказаньні...» «Уважлівага стаўленьня» Леніна да дамаганьняў Беларусаў тут і духу ня чуваць.

Абрэзаная тэрытарыяльна БССР праіснавала толькі два тыдні. Хапіла аднэй тэлеграмы з Масквы, каб мясцовыя партыйныя кіраўнікі, супраць уласнай волі, пачалі аб'ядноўваць абрэзаную БССР з Літоўскай ССР. У гэтай «фэдэрацыі», у якой пераважала беларускае насельніцтва, нават выданьне беларускай газэты было прызнана непажаданым. Але й гэты штучны твор зьнік гэтак-жа, як і паўстаў. Пасьля пяці месяцаў, у ліпені 1919 году, на загад Леніна, Літ-Бел спыніў сваё існаваньне.

На працягу цэлага году Масква не ўважала патрэбным захоўваць хоць-бы нейкую фіктыўную беларускую савецкую дзяржаўную рэпрэзэнтацыю, хоць вялікія прасторы ўсходняй Беларусі знаходзіліся пад кантролем савецкай арміі. Не стварае гонару ленінскай нацыянальнай палітыцы й тое, што ў сярэдзіне 1920 году БССР была абвешчаная ізноў, але толькі на тэрыторыі чатырох паветаў былой Менской губэрні. Пазьней тэрыторыя БССР была пашыраная. Але гэтае пашырэньне адбылося на настойлівае дамаганьне самога насельніцтва ўсходніх вобласьцяў. Заходнюю Беларусь саветы адступілі Польшчы.

Пералічаныя тут факты паказваюць, што ленінская нацыянальная палітыка, якую так намагаецца апраўдаць, абараніць і расхваліць гісторык Круталевіч, была ў сапраўднасьці пэрманэнтным змаганьнем партыі супраць імкненьня нашага народу жыць аб'еднана **ў сваёй** нацыянальнай дзяржаве. Але цяжка выступаць супраць аб'еднанай волі народу, і разумная палітыка ня можа яе ня ўлічваць.

У зьмешчаным на іншым месцы гэтага нумару нашай газэты артыкуле П. Залужнага «Дыскусія над пытаньнем савецкай нацыянальнай дзяржаўнасьці» гаворыцца пра тэарэтычныя супярэчнасьці, у якіх заблыталася цяпер савецкая нацыянальная палітыка. Гэтыя супярэчнасьці зьвязваюць рукі й беларускім савецкім гісторыкам. Для савецкіх гісторыкаў і ідэялёгаў ёсьць толькі адзін выхад з створанага тупіка: **аб'ектыўная** ацэна гэтак званай ленінскай нацыянальнай палітыкі і **перагляд** мэтазгоднасьці застасаваньня яе ў сучасных абставінах і ў будучыні. Бо бясспрэчным зьяўляецца факт, што разьвіцьцё нацыянальных дачыненьняў у сьвеце камуністычным і некамуністычным даказала застарэласьць і памылковасьць паглядаў Леніна на будучыню нацыі й нацыянальнай дзяржавы. У пэрыяд ліквідацыі рэшткаў імпэрыялізму й каляніялізму і стыхійнага руху за ажыцьцяўленьне ідэі нацыянальнай свабоды й незалежнасьці ўсіх народаў ленінская нацыянальная палітыка, заснаваная на расейскай вялікадзяржаўнасьці, сталася дзікім анахранізмам.

**Ю. С.**

# УВАГА

**Наступіла зьмена адрасу газэты «БАЦЬКАЎШЧЫНА» й БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА. Просім нашых прадстаўнікоў, падпісчыкаў і зацікаўленых асобаў занатаваць гэтую зьмену:**

**Die Weissruthenische Zeitung „Backauscyna“ („Das Vaterland“)**
**(8) München 13. Postfach 627**
**Банковае конто: Zeitung „Backauscyna“**
**Konto Nr. 357—125. Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München**
**Паштовае конто: Zeitung „Baćkaŭščyna“**
**Postscheckkonto: 8 München 215960**
**Weissruthenisches Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V.**
**(8) München 13. Postfach 627**
**Банковае конто: Weissruthenisches Institut**
**Konto Nr. 377—612. Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München**

# ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Уважаючы вельмі карысным абмен думкамі й кантакт паміж дэмакратычнымі групамі, з аднаго боку — расейскай, а з другога боку — нерасейскай эміграцыі Савецкага Саюзу, прадстаўнікі нацыянальных групаў эміграцыі Армэніі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Ідэль-Уралу, Крыму, Паўночнага Каўказу, Туркестану і Ўкраіны, якія ўваходзяць у склад Лігі Вызваленьня Народаў СССР — мелі нараду з прадстаўнікамі расейскай грамадзкай дэмакратычнай плыні, ведамай пад назовам «Кранштацкая Група».

Пасьля абмену думкамі нарада прыйшла да наступных высноваў:

1. Лютаўская рэвалюцыя 1917 году ськінула самадзяржаўнасьць у Расеі і адкрыла шлях да нацыянальнай, палітычнай і сацыяльнай свабоды для ўсіх народаў былой Расейскай імпэрыі. Гэтыя народы ўзяліся будаваць сваё нацыянальнае жыцьцё на аснове дэмакратычных прынцыпаў і ліквідацыі прыгнёту й эксплятацыі працоўных пластоў насельніцтва. Але гэты працэс будаўніцтва новай справядлівай будучыні, які й без таго сустракаў шэраг перашкодаў з прычыны працягваньня 1-ай сусьветнай вайны й непаразумленьняў паміж Расейскім Часовым урадам і новастворанымі нацыянальнымі прадстаўніцтвамі нерасейскіх народаў, быў перапынены бальшавіцкім кастрычніцкім пераваротам, што ўстанавіў дыктатуру камуністнай партыі, і пазьнейшымі ваеннымі агрэсіямі супраць самавызначаных народаў.

2. Сваімі лёзунгамі бальшавікі абяцалі поўную свабоду й новае шчасьлівае жыцьцё для працоўных масаў былой Расейскай імпэрыі. Але ў сапраўднасьці камуністычная дыктатура прынесла новае паняволеньне для ўсіх народаў Савецкага Саюзу. Канстытуцыя СССР, якая гарантуе на паперы ўсім грамадзянам дзяржавы поўную палітычную, сацыяльную й нацыянальную свабоду, на справе зьяўляецца ашуканствам. У Савецкім Саюзе няма свабоды рэлігіі, свабоды слова, свабоды прэсы, свабоды працы, свабоды асобы і ўсіх іншых свабодаў. Грамадзян Савецкага Саюзу прымушаюць выконваць дырэктывы таталітарнай улады ў асобе камуністычнай партыі, якая ператварыла іх у аб'ект жорсткай эксплятацыі камуністычнай гаспадарчай сыстэмай. Матарыяльны ўзровень жыцьця насельніцтва СССР надзвычай нізкі. Усе народы Саюзу жывуць у галечы. І разам з тым вялізарныя сродкі выкарыстоўваюцца для падрыву дэмакратычных рэжымаў у іншых краінах у імя гэтак званага «вызваленьня» паняволеных народаў, а таксама на павялічэньне ваеннага патэнцыялу гэтак званага «сацыялістычнага лягеру», што стварае пагрозу новай сусьветнай вайны. Камуністычная дыктатура паняволіла шляхам ваеннай і палітычнай агрэсіі шэраг свабодных і незалежных рэспублікаў, што ўзьніклі пасьля ліквідацыі самаўладзтва ў Расеі, і сілай улучыла іх у склад СССР. У сілу гістарычнай неабходнасьці і ў выніку дасьпелай нацыянальнай сьведамасьці й імкненьня да культурнай і нацыянальнай самастойнасьці народаў СССР, камуністычная алігархія, якая прыйшла да ўлады ў выніку кастрычніцкага перавароту, была прымушаная абвесьціць новыя дзяржаўныя ўтварэньні ў форме саюзных і аўтаномных рэспублікаў. Канстытуцыя СССР (артыкулы 18, 18-А, 18-Б й іншыя) прадугледжвае права кожнай саюзнай рэспубліцы «ўступаць у беспасярэднія зносіны з замежнымі дзяржавамі, падпісваць з імі пагадненьні й абменьвацца дыпляматычнымі й консульскімі прадстаўнікамі»; мець «свае рэспубліканскія ваенныя фармацыі» і «за кожнай саюзнай рэспублікай захоўваецца права свабоднага выхаду з СССР». Але на справе ўсе гэтыя канстытуцыйныя лёзунгі ня выконваюцца. Нацыянальная свабода рашуча й жорстка перасьледуецца ў СССР, дзе пануе вялікадзяржаўны камуністычны шавінізм.

3. Народы Савецкага Саюзу (расейскі народ і нерасейскія народы) зьяўляюцца ахвярамі камуністычнай дыктатуры. Яны імкнуцца да ліквідацыі гвалтоўна накінутага ім рэжыму. Заваёвы самых народаў, дасягнутыя ў выніку цяжкой працы ўва ўмовах працяглага й стойкага супраціву рэжыму гвалту й тэрору, павінны быць замацаваныя як у галіне эканамічнай, так і ў сацыяльнай і культурнай. Пры гэтым усё, што носіць штамп прымусу й прыгнечаньня людзкой свабоды і зьяўляецца перашкодай для выяўленьня творчых слаў народаў, адкідаецца. Ня можа быць і мовы пра аднаўленьне ўласнасьці былых абшарнікаў, фабрыкантаў і капіталістых або аб «продажы» народнай гаспадаркі замежнаму капіталу, гэта значыць усяго таго, чым палохае савецкіх грамадзян камуністычная прапаганда. Зямля павінна належыць працоўнаму сялянству, а прамысловыя прадпрыемствы (фабрыкі й заводы) будуць сапраўднай уласнасьцяй народаў. Усеагульная бясплатная асьвета бяз прывілеяў для якога-небудзь пласту жыхарства, бясплатная мэдыцынская дапамога, свабодныя прафэсыйныя саюзы, свабодная каапэрацыя ўва ўсіх формах, сапраўды свабодная праца на зямлі й на фабрыках, свабодная творчасьць людзей навукі, мастацтва й літаратуры, сапраўдная свабода асобы, фактычнае разьняволеньне жанчыны, розныя формы сацыяльнага забясьпячэньня і іншыя сацыяльныя інстытуцыі — усё гэта ажыцьцявіцца й будзе разьвівацца ў свабодных умовах. Усё, чым намагаецца цяпер ганарыцца камуністычная партыя, зьяўляецца рэвалюцыйнымі заваёвамі самых народаў Савецкага Саюзу, а не падарункам антынароднай дыктатуры. Ліквідацыя-ж эксплятацыі чалавека чалавекам і дзяржавай, якая набрала страхотных памераў у Савецкім Саюзе ў выніку стварэньня новых прывілеяваных клясаў, укарануецца свабодным разьвіцьцём людзкой асобы і ўзьняцьцем матарыяльнага ўзроўню жыцьця. Вызваленыя ад прыгнёту таталітарнай дзяржавы і партыйнага прымусу культурнае жыцьцё й творчая дзейнасьць непамерна павялічаць сваю эфэктоўнасьць.

4. Працэсы, якія вядуць да ліквідацыі камуністычнай дыктатуры, няўхільна сьпеюць сярод самых народаў Савецкага Саюзу, ня вылучаючы й шматлікіх сяброў камуністычнай партыі й камсамолу. Прыйдзе час, калі тым ці іншым шляхам будзе ськінутая ўлада камуністычнай партыі. Але гэта павінна быць справай самых народаў Савецкага Саюзу, без усякага вонкавага ўмяшаньня, наўсуперак запалохваньням камуністычнай прапаганды.

5. Эміграцыі народаў Савецкага Саюзу, якія зьяўляюцца выказьнікамі свабоднай думкі сваіх народаў, бяруць актыўны ўдзел у змаганьні за вызваленьне. Дзеля гэтага агульныя выступленьні і паасобныя супольныя дзеяньні расейскіх і нерасейскіх групаў эмігрантаў зьяўляюцца пазытыўным зьявішчам.

6. Прадстаўнікі нерасейскіх групаў, якія ўваходзяць у склад Лігі Вызваленьня Народаў СССР, і прадстаўнікі расейскай «Кранштацкай Групы» прыйшлі да высновы, што, з мэтай стварэньня антыкамуністычнага фронту, яны будуць супрацоўнічаць і супольна выступаць на такіх асновах:

а) Судзейнічаньне ліквідацыі камуністычнай дыктатуры на ўсёй тэрыторыі сучаснага Савецкага Саюзу і стварэньне сапраўды дэмакратычнага працоўнага народнага ладу без адраджэньня эксплятататарскіх клясаў.

б) Прызнаньне поўнай роўнасьці ўсіх народаў СССР і іхнага права на нацыянальнае разьвіцьцё, самавызначэньне й дзяржаўную самастойнасьць і забесьпячэньне рэалізацыі гэтага права. У меру ўпадку камуністычнай дыктатуры народы Савецкага Саюзу ўстаноўліваюць на сваіх нацыянальных тэрыторыях сувэрэнную ўладу пры пасярэдніцтве сваіх выбраных дэмакратычным шляхам нацыянальных установчых сходаў і сваіх нацыянальных урадаў, як незалежныя дзяржавы. Толькі нацыянальныя сходы і ўрады кожнай незалежнай дзяржавы ўстаноўліваюць у сябе палітычны, сацыяльны й эканамічны лад і разьвязваюць пытаньні іхных узаемадачыненьняў з іншымі народамі й дзяржавамі.

в) «Кранштацкая Група» расейскай эміграцыйнай грамадзкасьці ўважае найбольш мэтазгодным, галоўным чынам з меркаваньняў эканамічнага й культурнага характару, каб у будучыні на тэрыторыі цяперашняга Савецкага Саюзу паўстала «Супольнасьць» асобных рэспублікаў, падкрэсьліваючы пры гэтым, што такая «Супольнасьць» павінна быць створаная на сапраўды роўных і цалкам дабраахвотных прынцыпах. Нерасейскія групы, аб'едналыя ў Лізе Вызваленьня Народаў СССР, імкнуцца да аднаўленьня на тэрыторыях сваіх народаў незалежных дэмакратычных дзяржаваў, уважаючы, што такія дзяржавы, не ўваходзячы ў праектаваную «Кранштацкай Групай» «Супольнасьць», будуць мець добрасуседзкія й прыязныя дачыненьні з дэмакратычнымі дзяржавамі расейскага й іншых народаў. Пры гэтым беззасьцярожна прызнаецца, што пытаньні будучых узаемадачыненьняў паміж народамі цяперашняга Савецкага Саюзу, а таксама з іншымі народамі, могуць разьвязвацца толькі выбранымі дэмакратычным шляхам нацыянальнымі ўстаноўчымі сходамі або парлямантамі і ўрадамі асобных сувэрэнных дзяржаваў гэтых народаў.

7. Прыйшоўшы да вышэйпададзеных высноваў, удзельнікі нарады зьвяртаюцца да эміграцыяў народаў Савецкага Саюзу з гарачым заклікам актывізаваць дапамогу народам СССР у іхных імкненьнях ліквідаваць камуністычную дыктатуру, зыходзячы з дэмакратычных прынцыпаў пададзеных у гэтым паведамленьні. Наш супольны зварот павінен быць накіраваны народам, што церпяць пад ярмом камуністычнай дыктатуры. Справа ліквідацыі антынароднага таталітарнага рэжыму — гэта справа справядлівая і яна закончыцца перамогай. Мы перакананыя пры гэтым, што сымпатыі вольнага сьвету — на баку народаў, якія змагаюцца за сваю свабоду. Мы-ж, з свайго боку, забавязаныя прыкласьці ўсе высілкі, каб дапамагчы нашым народам у змаганьні за свабоду й справядлівасьць. Таталітарныя дыктатарскія рэжымы прыгнёту — пройдзены гістарычны этап. Мы зьяўляемся сьветкамі іхнага ўпадку. Такі канец няўхільны таксама й для такой дзяржавы камуністычнага імпэрыялізму, якім зьяўляецца цяпер Савецкі Саюз пад уладай антынароднай дыктатуры.

«Ліга Вызваленьня Народаў СССР»:
«Кранштацкая Група»:

# Калгасы й прыватныя гаспадаркі

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

часьцяй. І так, на прыватныя дапамаговыя гаспадаркі прыпадала 50 працэнтаў агульна - рэспубліканскай прадукцыі бульбы, 57,8 працэнта гародніны, 59,2 працэнта мяса й сала, 52,2 працэнта малака, 83,4 агульна-рэспубліканскай вытворчасьці яек. Гэтую колькасьць асноўных прадуктаў харчаваньня дапамаговыя гаспадаркі здолелі даць ня гледзячы на тое, што пагалоўе буйнай рагатай жывёлы ў асабістай уласнасьці насельніцтва за пэрыяд ад 1958—64 гадоў зьменшылася на 15 працэнтаў, кароў на 10, авечак на 60. Пры гэтым у калгасьнікаў колькасьць буйнай рагатай жывёлы скарацілася за гэтых восем год на 31 працэнт, кароў на 29, сьвіней на 17, авечак на 38 працэнтаў.

Артыкул у «Весьцях Акадэміі навук БССР» падае наступныя прычыны зьменшаньня колькасьці жывёлы ў калгасьнікаў:

«Такое рэзкае скарачэньне пагалоўя прадукцыйнай жывёлы ў калгасьнікаў БССР адбылося з многіх прычынаў. Папершае, у сувязі з эканамічна неабгрунтаваным абмежаваньнем утрыманьня жывёлы ў асабістай падсобнай гаспадарцы, што ажыцьцяўляецца ў адміністрацыйным парадку. Падругое, у гэты пэрыяд частка калгасаў была ператвораная ў саўгасы, а калгасьнікі перайшлі на становішча рабочых саўгасаў. Патрэцяе, у сувязі з недастатковым забясьпячэньнем калгасьнікаў кармамі для жывёлы на зімовы пэрыяд. Аднак, ня гледзячы на скарачэньне пагалоўя прадукцыйнай жывёлы ў асабістай уласнасьці насельніцтва, прадукцыя асабістай падсобнай гаспадаркі ўсё яшчэ працягвае пераважаць ад аб'ёмам вытворчасьці ў калгасах і саўгасах...»

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што дапамаговыя гаспадаркі жыхарства Беларусі маюць у сваім распараджаньні ўсяго толькі 3—5 працэнтаў агульнай плошчы апрацоўванай зямлі рэспублікі. Ведама, што ўвага дзяржавы была сканцэнтраваная на стымуляваньні калгасна-саўгаснага сэктару. Калгасна-саўгасныя гаспадаркі атрымліваюць паважную колькасьць сельскагаспадарчай тэхнікі, якой ня маюць гаспадаркі дапамаговыя. На калгасна-саўгасных палёх выкарыстоўвалася танная, часта дармовая, працоўная сіла сельскага жыхарства.

Ня гледзячы на ўсё гэта, на 95 працэнтах калгасна-саўгасных сельскагаспадарчых угодзьдзяў было выпрадукавана менш асноўных прадуктаў харчаваньня, чымся на нейкіх пяці працэнтах зямлі, што належыць да асабовых гаспадарак насельніцтва.

Аб чым гаворыць гэтае параўнаньне? Яно наглядна паказвае вялізарнае марнатраўства сельскагаспадарчых зямельных фондаў, калгасна-саўгаснай тэхнікі і працоўнай сілы, занятай у гэтак званай «грамадзкай» вытворчасьці.

У прыгаданым артыкуле «Весьцяў Акадэміі навук БССР» далей сказана:

«Аб'ектыўная неабходнасьць існаваньня асабістай падсобнай гаспадаркі калгасьнікаў, рабочых і служачых абумоўленая тым, што на сучасным этапе разьвіцьця грамадзкае вытворчасьці калгасаў і саўгасаў аб'ём выраблянай імі прадукцыі недастатковы для таго, каб **поўнасьцяй** задаволіць патрэбы насельніцтва ў прадуктах харчаваньня...»

У артыкуле Логінава пададзены аб'ектыўны стан вытворчасьці прадуктаў харчаваньня ў прыватным і скалектывізаваным сэктарах. Але замест таго, каб з гэтага аналізу выцягнуць лягічны выснаў, аўтар кідаецца ў традыцыйную партыйную ўтопію. Ён цытуе Праграму КПСС, у якой гаворыцца, што хутка грамадзкая вытворчасьць дасягне такога ўзроўню, што «асабістая падсобная гаспадарка паступова зжыве сябе эканамічна». Праўда, далей Логінаў адзначае, што ў Беларусі працэс гэты яшчэ нават не пачаўся. А мне здаецца, што ён ніколі й не пачнецца.

Ужо 40 год калгасы й саўгасы даюць толькі страты. Створаныя на загад тырана Сталіна, яны нагадваюць мёртванароджанае дзіця, пазбаўленае ўсякіх жыцьцёвых сілаў. Дасьветчаньне й здаровы розум падказваюць, што як-бы гэты мёртвы арганізм не падпраўляць, ён ніколі ня стане прадукцыйным. А народ-жа хоча жыць і разьвівацца. Тымчасам савецкія-ж дэмографы падлічылі, што ад дрэнных умоваў жыцьця і перш за ўсё ад нястачы харчаваньня на эўрапэйскай частцы СССР спыніўся ўжо натуральны прырост насельніцтва. Гэта алярмуючыя весткі. Трэба тэрмінова шукаць эфэктоўных сродкаў для павялічэньня вытворчасьці прадуктаў харчаваньня. На маю думку, найбольш дэмакратычнай і практычнай разьвязкай была-б такая: загарантаваць свабоднае спаборніцтва (каб ня ўжываць «капіталістычнага» тэрміну «канкурэнцыя») на абсалютна аднолькавых умовах тым, што хочуць апрацоўваць зямлю калектыўна, з тымі, што жадаюць працаваць на аднаасобных гаспадарках. Жыцьцё само паказала-б, якая форма землякарыстаньня больш карысная грамадзтву. А форма, якая выявілася-б менш прадукцыйнай, зьнікла-б сама па сабе.

**Ю. Дубовік**

*Масей Сяднёў*

# РАМАН КОРЗЮК

## (*Працяг*)

26.

Мінула колькі часу, а Валю Камоцкую на допыт болей не выклікалі — як забылі. Нездарма-ж Палітыка пужаў яе паўгадовым і гадовым сядзеньнем. Мусіць сваю пагрозу ён запраўды датрымае.

Але Валя Камоцкая кажны дзень з нецярплівасьцяй чакала хвіліны, калі адчыняцца дзьверы яе камэры і яе выклічуць, ды дзьверы тыя ўсё не адчыняліся, і яна, не дачакаўшыся, позна кладучыся ў ложак, ускладвала свае надзеі на заўтрашні дзень, які, наступіўшы, ашукваў яе так-жа, як і пяпярэдні. І так бясконца. З адзіночкі яе нікуды не пераводзілі, хоць яна не аднойчы прасілася ў пракурора-інспэктара, калі той абходзіў камэры. Пісаць дахаты не дазвалялі, бо, як ёй казалі, сьледства яе яшчэ ня скончылася. А ёй якраз цяпер хацелася-б напісаць бацьком, тым балей, што так ці інакш яны, бязумоўна, даведаліся аб яе арышце, і хаваць ад іх гэты факт было-б дзіўна й недарэчна. Немаль каждую ноч Валі сьніцца адзін і той-жа сон: у інтэрнат маці прыяжджае за ейнымі рэчамі, але ёй не аддаюць іх, ня ўспушчаюць навет на парог, адпіхваюць і гоняць. Ды маці не здаецца — прыяжджае зноў. Як і раней, рэчаў ёй не аддаюць, гоняць, яшчэ й насьміхаюцца. І што найболей засмучае Валю ў гэтым сьне, дык гэта маўклівасьць маці. Хоць-бы адным слоўкам яна абаранілася — яе ў грудзі піхаюць, а яна маўчыць. Ціхенька й паслухмяна адыходзіцца із сьлязьмі на вачох.

Падобныя сны засмучалі Камоцкую, прыцішалі, западалі глыбока ў ейную душу і, здавалася, разбуралі яе, пакідаючы у [illegible] толькі адну горыч. Колькі прайшло таго часу, а Валя адчувала сябе ня той ранейшай, што гатовая была выкалаць іншаму вока, а не даравацъ, не папусьціцца і не ўступіць. Аб Раману яна думала ўсё менш і менш, толькі дакарала сябе, што зашмат выдала на яго душы. Тая ўява, якая з такой сілай малявала ёй спатканьні зь ім, за кароткі час турэмнага побыту перастала быць уявай, і памяць аб Раману станавілася горкай, дагклівай, хаця яшчэ й жаданай. Камоцкая ўсьведамляла, што калі яна прабудзе ў турме яшчэ даўжэй ( а яна чамусьці верыла, што яе хутка павінны вызваліць), у ейным нутры ўсё выгарыць і ў душы застанецца толькі холад, за якім прыйдзе помста за ўсё нязьдзейсьненае, недасьнёнае й перарванае. Яе душа няўмела пераносіць гора, якое яе напаткала . Ад навукі, якую яна, можна сказаць, асягнула, яна чакала рэальнай карысьці, выніку як для сябе, гэтак і для сваіх бацькоў, і нечаканы канец гэтаму ўсяму быў успрыняты Валяй Камоцкай трагічна. Турма зьядала яе душу з хуткасьцяй, зь якой не патрапіла-б сьмерць найдаражэйшага ёй чалавека. Уявай спатканьняў з Раманам Валя жыла ня доўга. Ды й пашто было жыць тою ўяваю? Адно як-бы толькі суцяшала Валю — гэта памога, якую яна ўчыніла Корзюкам. Безь яе Корзюкі ніколі ня былі-б разам. Валя быццам ахвяравала сабой і цяпер чулася як-бы ашуканай, адкінутай і нікому непатрэбнай. Мала таго — Валя цяпер мусіць адказваць за тую сваю ахвярнасьць. Дарога ў жыцьцё яе скончылася і гэтага Валя Камоцкая не магла даравацъ сабе, карыла сябе й вінавацiла. Яна навет даходзіла да таго, што прычыну ўсіх сваіх няшчасьцяў шукала ў сваёй «лапцюжнасьці».

А то часамі да сьлёз Валя расчульвалася тэю «лапцюжнасьцяй»: гэта-ж яна яе вывела ў сьвет. Ейны бацька быў лапцюжнік, і ў навуку яе прынялі менавіта як лапцюжніцу. Як-бы яна цяпер вярнулася да тых лапцяў з белымі анучамі і новымі аборкамі, — танцавала-б ня так, як калісьці ў сваім вясковым клюбе ў часе гуляў! Мова і ўсё было лапцюжнае. Лапцю была дарога. А цяпер куды папаліся гэтыя лапці? І дзе цяпер выйсьце для іх?..

Таго, што давалі ёй есьці, хапала зь яе, яшчэ й заставалася: на стале чарсьцвеў хлеб, зупу з рыбай вылівала ў «парашу». Не хацелася есьці, душа зацялася й пасьцілася, як душа манашкі. Піла толькі гарбату з цукрам. «Сохне душа, няхай сохне і цела» — думала пра сябе.

Забразгацяць посудам на карыдоры, і Валя Камоцкая ведае — абед. Турэмнік стане на парозе, трохі пажартуе і зноў зачыніць дзьверы, упусьціўшы ў камэру на колькі глыткоў халаднаватага паветра. І гэтак тры разы на дзень. У дадатак выпусьцяць у прыбіральню. Валя вымые там сваю блюзку ці што іншае, высушыць у камэры і зноў надзене чыстае. А то пашчасьціць разабраць «пошту»: дастаць з кошыка кавалак газэціны, кінуты туды пасьля ўжытку. Ёй газэт не давалі, і яна дзівілася, што нехта іх мае і, як назнарок, кідае тут, якбы спэцыяльна для яе. З гэтай «пошты» Валя шмат аб чым даведвалася, распасьціраючы ў камэры пакамечаныя шматкі, а то й цэлыя балонкі якой-небудзь газэціны. Напрыклад, ёй удалося вычытаць, што скончыў самагубствам Чарвякоў, арыштаваныя Галадзед, Шаранговіч, Жылуновіч-Цішка Гартны, Кудзелька-Чарот, Касянкоў-Зарэцкі, Дайлідовіч-Дудар і г. д. Такія і іншыя навіны як-бы жывілі Валю, яна вычувала, што насоўваецца нешта вялікае і што ў гэтым вялікім, можа стацца, і яна зойме нейкае сваё месца. Але зноў цесныя сьцены камэры сьціскалі яе ў сваіх каменных абдымках, не давалі ходу, і ўсяго, што ёй заставалася — гэта той нязводны кавалачак неба, што сінеў у яе высокім вакне, перахрышчаным кратамі.

Валю Камоцкую ня толькі не выклікалі на допыт, але й не вадзілі на прагулку. Стоячы пад дзьвярыма і падслухоўваючы рух на карыдоры, Камоцкая чула, як там тупацелі, паціху гаварылі і сыходзілі ўніз па гулкай лесьвіцы. Камоцкая здагадвалася, што гэта вялі зьняволеных на прагулку, бо хутка яны вярталіся і тупаценьне ўзнаўлялася. Валя чакала, што вось павядуць і яе, але ніхто не падыходзіў да яе дзьвярэй і не адчыняў іх, і яна, зьняможаная ў чаканьні, садзілася за свой каменны столік у кутку.

Увечары выблісьнулі за кратамі зоры і паказаўся ў небе новы, тонкі ў сваіх абрысах месяц. Ён крышыўся ў кратах вакна і, паламаны, сыпаўся аськепкамі сьвятла ўніз, па той бок сьцяны. Валі здалося, што калі-б яна магла падставіць свае прыгаршчы, гэтыя аськепкі, упаўшы, абпяклі-б ёй далоні. Але гэта ёй толькі здалося. З суседняй камэры дробненька забарабанілі ў сьцяну. Па рытму гэта нагадвала ёй азбуку

# Угодкі адраджэньня беларускага друку

**(ДА 60-ГОДЗЬДЗЯ ВЫДАВЕЦТВА «ЗАГЛЯНЕ СОНЦА І Ў НАША ВАКОНЦА»)**

«Дзіўны твой гістарычны лёс, беларускае слова! Адным зь першых у сьвеце прабілася ты праз цемру сярэднявечча. Падхапіўшы на свае крылы выдатныя творы сусьветнай культуры — у тым ліку думкі, мары і справы вялікіх беларусаў эпохі Адраджэньня, ты панесла іх па шырокіх прасторах славянскай зямлі, каб разагнаць тую цемру, якая сьляпіла людзям вочы, засланяла ім шлях наперад. 449 гадоў таму назад выправіў цябе ў сьвет слаўны доктар Францішак Скарына. Крылы твае ўзмацнялі, палётам тваім кіравалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пятрусь Мсьціславец, Лаўрэнці Зізаній. Дзякуючы ім ты ўвайшло ў скарбніцу сусьветнай культуры . . .»

Гэтымі прыгожымі паэтычнымі словамі пачынае Міхась Біч свой артыкул «У змаганьні за лепшую долю», зьмешчаны ў восьмём нумары пасапісу «Полымя». Артыкул прысьвечаны газэце «Наша доля» з нагоды 60-годзьдзя ейнага заснаваньня.

І сапраўды. Слаўны шлях прайшло беларускае друкаванае слова ад таго мамэнту, калі яго выправіў у сьвет доктар Францішак Скарына. Яно адыграла вялікую ролю ў культурным жыцьці беларускага народу другое палавіны XVI-га і першае палавіны XVII-га стагодзьдзяў. У тую пару беларускае кнігадрукаваньне атрымала вялікае пашырэньне й спрычынілася ў значнай меры да захаваньня мовы й культуры беларускага народу. Яно дасягнула было высокага тэхнічнага ўзроўню. Кнігі, што выходзілі ў нашай Бацькаўшчыне, паводля свайго тэхнічнага ўзроўню й мастацкага афармленьня ня ўступалі друкаваным выданьням, якія выходзілі ў іншых краінах Эўропы.

Але, як кажа той-жа Міхась Біч — «здарылася нешта недарэчнае» — крылы аслабелі, друкаванае слова зьяўлялася радзей і радзей і ўрэшце зусім занікла. Гэтае «нешта недарэчнае» — гэта спачатку наступ палянізацыі, а потым прымусовае далучэньне Беларусі да Расеі. Асабліва гэтае апошняе. Як ведама, паводля расейскай афіцыйнай канцэпцыі гэтае далучэньне нібыта «адпавядала кроўным інтарэсам шырокіх масаў беларускага народу». У сапраўднасьці-ж, яно зьяўлялася найбольш жудасным паняволеньнем нашай Бацькаўшчыны. Яно бо, гэтае далучэньне, спрычынілася да культурнага й эканамічнага заняпаду нашага народу і давяло да поўнай забароны друку пабеларуску ў 1867 годзе, што на доўга стрымала разьвіцьцё беларускага друкаванага слова.

Нягледзячы аднак на ўсе няспрыяльныя абставіны, на перасьлед і зьдзекі, беларускі народ «не памёр і захаваў сваё жывое слова». Пачынаючы ад канца 80-ых гадоў XIX стагодзьдзя зьяўляюцца беларускія публікацыі, што, як тыя першыя ластаўкі, абвяшчалі пра надыходзячую вясну — адраджэньне беларускага народу. Праўда, спачатку яны былі выпадковымі й раськіданымі па розных пэрыядычных і непэрыядычных выданьнях. Але ўжо ў 1906 годзе беларускі нацыянальны рух узыходзіць на новыя рэйкі, на адкрыты легальны шлях. У травені гэнага году ў Пецярбургу была заснаваная беларуская выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», якая, разам з «Нашай доляй» і «Нашай Нівай» паклалі пачатак гісторыі найноўнага нацыянальнага друку і адкрылі новы этап у разьвіцьці беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Як слушна адзначае аўтар прыгаданага намі артыкулу «У змаганьні за лепшую долю» — «масавы нацыянальны рух нельга ўявіць без разьвіцьця нацыянальнага друку. Распрацоўка ідэялягічных пытаньняў руху, яго праграмы, стратэгіі і тактыкі, прапаганда нацыянальнай ідэі, арганізацыя руху, разьвіцьцё асьветы, культуры і літаратуры, а таксама тэатру, выяўленчага мастацтва, музыкі, школы і навукі, распрацоўка нормаў літаратурнай мовы — усё гэта немагчыма бяз друку, бо ўсё гэта — яго непасрэдныя функцыі і задачы».

Піянэры нашага нацыянальнага адраджэньня добра ўсьведамлялі сабе гэтую праўду і таму зрабілі ўсё магчымае, каб наладзіць выдавецкую справу.

У БССР пра выдавецкую суполку «Загляне сонца і ў наша ваконца» пішуць вельмі мала. Звычайна абмяжоўваюцца сьцьверджаньнямі пра ейнае існаваньне. А гэта таму, што стварэньне суполкі і ўся ейная дзейнасьць цесна зьвязаная зь дзейнасьцяй Беларускай Сацыялістычнай Грамады і з такімі імёнамі, як прафэсар Браніслаў Эпімах Шыпіла і прафэсар Вацлаў Іваноўскі, якія ўважаюцца прадстаўнікамі «буржуазна-лібэральных тэндэнцыяў». А гэта шкада. На нашую думку, выдавецтва прарабіла вялізарную работу і дзеля гэтага заслугоўвае на больш чымся лякaнічныя прыгадваньні. Ды ня толькі гісторыя выдавецтва ляжыць дзірваном. Застаецца недасьледванай і ўся дзейнасьць беларусаў Пецярбургу пачатку нашага стагодзьдзя. А дзейнасьць гэтая была разнастойная й плённая. Не адну манаграфію можна было-б і трэба прысьвяціць ёй!

Але вернемся да выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца». Як мы толькі што адзначылі, ейнае заснаваньне цесна зьвязанае зь дзейнасьцяй Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Як вядова, беларускі адраджэнскі рух у канцы XIX і ў пачатку XX-га стагодзьдзя разьвіваўся даволі імкліва, не зважаючы на розныя перашкоды. Сярод Беларусаў, як і сярод іншых нацыянальнасьцяў царскае імпэрыі паўстала думка стварыць адмысловую палітычную арганізацыю, якая кіравала-б працай ў кірунку перабудовы ладу ў Расейскай імпэрыі. Такая першая беларуская палітычная арганізацыя паўстала зімой 1902 году ў Менску. Ейнымі заснавальнікамі былі студэнты-беларусы пецярбургскіх вышэйшых школаў: Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Карусь Каганец, Віктар Зелязей і іншыя. Адначасова паўстала сэкцыя гэтае партыі і ў Пецярбургу. Ейнымі заснавальнікамі былі Іваноўскі і Алёіза Пашкевічанка-Цётка. У тым-жа 1902 годзе ў Пецярбургу беларускія студэнты заснавалі гурток пад назовам «Круг беларускае народнае прасьветы й культуры». Гэты «Круг», між іншага, выдаў на гэктаграфе невялікія кніжкі «Калядную пісанку» і «Вялікодную пісанку». Апрача таго, ён выдаў «Вязанку» Няслухоўскага, падаючы яе ў цэнзуру, як твор у баўтарскай мове.

Выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» было створанае ў травені 1906 году. Яно паўстала зь ініцыятывы нелегальнага беларускага студэнцкага гуртка ў Пецярбургу. Галоўным арганізатарам быў Вацлаў Іваноўскі. Кіраўніком-жа суполкі быў выдатны беларускі дзеяч і вучоны прафэсар Эпімах-Шыпіла. Выдавецтва друкавала беларускія кніжкі з прыгожага пісьменства, школьныя падручнікі й навукова-папулярныя брашуры. За сем гадоў свайго існаваньня суполка выдала 22 беларускія кніжкі. У 1912-ым годзе суполка пачала выдаваць літаратурна-грамадзкі часапіс «Маладая Беларусь». Былі выдадзеныя тры нумары. У сваім выдавецтве пецярбургскія беларускія студэнты выдавалі свой часапіс «Раніцу» і розныя альманахі.

Зь дзейнасьцяй выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» зьвязана й творчасьць Янкі Купалы. Каб паглыбіць свае веды, у 1909 годзе Купала пераехаў зь Вільні ў Пецярбург, дзе прабыў да 1913 году. Праз чатыры гады пецярбургскага жыцьця Купала наведвае агульнаасьветныя курсы Чарняева й адначасна працуе ў выдавецтве. Гэта — найбольш плённы пэрыяд Купалавае творчасьці.

Пасьля заснаваньня выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» зараджаецца легальны нацыянальны друк ўжо і самой Беларусі. Скарыстаўшы з скасаваньня забароны беларускага друку пачала выходзіць у Вільні газэта «Наша доля», а пасьля «Наша ніва», якая разгарнула выдавецкую й культурна-асьветную дзейнасьць ўва ўсёй краіне. Ствараюцца культурна-асьветніцкія саюзы, выдавецкія таварыствы, бібліятэкі й чытальні. Для ўзмацненьня выдавецкае працы, у Вільні паўстала выдавецтва «Нашая хата», Беларускае Выдавецкае Таварыства, а таксама беларуская кнігарня. У Менску-ж была створаная выдавецкая супалка «Менчук».

Такім чынам, беларускі адраджэнскі рух мог глыбока запусьціць карэньні ў беларускія народныя масы й спрычыніцца да таго, што беларускі народ у часы вайны й рэвалюцыі здолеў выйсьці на палітычную арэну як дасьпелая нацыя.

**В. Сянкевіч**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# Мова Вялікага Княства Літоўскага

Каб падвесьці гісторыю Беларусі пад афіцыйную канцэпцыю пра «бязьдзяржаўнасьць» беларускага народу і ягоную нібыта «гістарычна-нацыянальную супольнасьць» з народам расейскім, савецкая гістарыяграфія адабрала ад нас увесь літоўскі пэрыяд нашай мінуўшчыны. Тэрміны «Літва», «літоўцы», «літоўскі» яна аўтаматычна пераносіць на сёньняшніх летувісаў і на Літоўскую ССР прыпісваючы ім і ўсю гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Мы ўжо неаднаразова пісалі пра тэндэнцыйнасьць гетае канцэпцыі. Супраць яе выступілі таксама й беларускія вучоныя на Бацькаўшчыне. Яны асуджаюць яе як недарэчную і аднабаковую і адначасна дамагаюцца ейнага перагляду. Бо й сапраўды. Чыёй дзяржавай была гістарычная Літва? Якому народу належала Вялікае Княства Літоўскае? Літоўскаму ў сёньняшнім значэньні гэтага слова, ці народу беларускаму, які ў мінулым зваў сябе літоўскім?

Ядро Княства было заклададзена на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, гэта значыць, што працэс яго ўтварэньня праходзіў на беларускіх землях і пры актыўным удзеле гэтых земляў. Але месца ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага ня ёсьць адзіным довадам яго беларускасьці. Іншымі, ня менш важнымі, зьяўляюцца такія фактары, як мова, гэрб, права, палітыка ды і сам назоў Княства. Таму сёньня мы спынімся крыху больш на гэтым першым фактары, а менавіта на дзяржаўнай мове Вялікага Княства Літоўскага.

Як вядома, гэтай мовай была мова беларуская. Яна была прызнаная афіцыйнай мовай Княства пры князю Альгердзе і замацаваная заканадаўчым шляхам Літоўскім Статутам 1588-га году. Гэтага факту сёньня ніхто не запярэчвае.

Сьветчыць пра гэта і вялікая колькасьць пісьмовых твораў як царкоўнага, так і сьвецкага характару, а таксама безьліч дакумантаў канцылярскага характару (граматы, акты, статуты). На шчасьце, шмат з гэтых пісьмовых помнікаў і дзяржаўных дакумантаў захавалася да нашых дзён. Назовём хоць-бы вялікі архіў дзяржаўных дакумантаў Вялікага Княства Літоўскага, ведамы пад назвай «Літоўская мэтрыка», полацкія граматы 14—16 стагодзьдзяў, акты іншых беларускіх гарадоў, як Віцебск і Магілёў. З юрыдычных помнікаў успомнім «Судзебнік Казімера Ягайлавіча», «Літоўскі Статут» у трох рэдакцыях, акты Менскага, Берасьцейскага, Горадзенскага суду і іншыя. Зь гістарычнай літаратуры назавём сьпісы летапісаў — Віленскі, Быхаўскі, Увараўскі, Супрасьльскі, Баркалабаўскі, а таксама помнікі сатырычнай, палітычнай і бытавой літаратуры, хронікі, апісаньні, успаміны, прамовы, дзёньнікі.

Беларуская мова пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага абслугоўвала шырокія сфэры грамадзкага жыцьця. Ды яна была ня толькі мовай літаратуры і штодзённай гаворкі вышэйшых пластоў грамадзтва. Беларуская мова была тады мовай, якой карысталіся пры двары Вялікіх Князёў. На ёй гаварылі й пісалі Міндоўг і Гэдымін, Ягайла і Вітаўт і ўсе Ягайлавічы аж да Жыгімонта Аўгуста.

Тагачасная беларуская мова была аднак ня толькі дзяржаўнай мовай на тэрыторыі **ўсяго** Вялікага Княства Літоўскага. Яна была ведамай шырока па-за ягонымі межамі. У беларускай мове ня толькі пісаліся кнігі, выдаваліся законы, ня толькі адбывалася навучаньне, але яна была ў той час дыпляматычнай мовай амаль **усёй** Усходняй Эўропы. Яна была настолькі разьвітая, што мела вялікі ўплыў на разьвіцьцё мовы і культуры суседніх народаў, асабліва польскага й расейскага. Нават татары і жыды, якія жылі на нашай бацькаўшчыне, прынялі беларускую мову ня толькі ў штодзённым жыцьці, але і ў багаслужэньні. Асьвечаныя пласты грамадзтва Жмудзі і Інфлянтаў таксама паслугоўваліся мовай беларускай. Пра гэта сьветчаць шматлікія гістарычныя крыніцы.

У сьвятле ўсяго сказанага дагэтуль, здавалася-б, што не павінна было-б быць ніякага сумлеву ў тым, што Вялікае Княства Літоўскае было дзяржавай беларускай. Але ёсьць вучоныя розных нацыянальнасьцяў, якія ня хочуць прызнаць гэтага факту. З палітычных меркаваньняў, пад тэрмінам «Літва» яны разумеюць балцкае племя жмудзі — сёньняшніх летувісаў — прыпісваючы ім зусім несправядліва і ўсю гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Гэтае племя нібыта «падбіла» беларускія землі, ствараючы літоўскую дзяржаву. Той-жа факт, што ад самага пачатку гэтае гаспадарства гаварыла па-беларуску яны тлумачаць вышэйшасьцяй беларускай культуры над балцкай. Паводля іхных цьверджаньняў, культурны ўзровень жмудзінаў быў значна ніжэйшы за культурны ўзровень беларускага жыхарства, землі якога былі імі быццам захопленыя. І паколькі яны не мелі яшчэ пісьменства, заваяваўшы нашыя землі яны нібыта не парушылі мясцовых звычаяў, традыцыяў, мовы і самі трапілі пад уплыў больш разьвітай культуры, уводзячы беларускую мову як дзяржаўную ўва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім. Тлумачэньне гэтае тэндэнцыйнае, павярхоўнае й застарэлае. Яно ня вытрымоўвае сур'ёзнае навуковае крытыкі.

Бо калі-б яно было так, дык чаму, напрыклад, такі ваяўнічы народ, якім былі жмудзіны, з дасканалай вайсковай арганізацыяй — а такім яго рысуюць гісторыкі ўспомненай катэгорыі — не пакінуў у тагачаснай мове Княства нават ніводнага ваеннага тэрміну на сваёй мове? Чаму гэты народ-пераможца, які прэтэндаваў на дамінуючае становішча ў дзяржаве, не пакінуў па сабе ніводнага дакуманту, ніводнага акту на сваёй роднай гаворцы, а застаўся нявольнікам мовы й пісьменнасьці падпарадкаванага сабе народу? Асабліва, калі возьмем пад увагу той факт, што 15-ае і 16-ае стагодзьдзе ўважаліся стагодзь-

**(Заканчэньне на 8-ай бач.)**

---

— У нас часу хопіць, і з вамі, будзьце ўпэўненымі, мы справімся!

Палітыка пачаў званіць. У вокамгненьне вялікі габінэт Палітыкі напоўніўся людзьмі: пад зброяй увялі пяць чалавек, у тым ліку і Генадзя Кандрацёню. За сьпіною кажнага з іх пасталі чырвонаармейцы з вінтоўкамі. Як толькі прыведзеныя селі, прыйшло двое ў ваеннай форме, на выгляд — высокае начальства. Палітыка і двое ягоных паплечнікаў павайсковаму аддалі ім чэсьць. Высокае начальства села за стол, накрыты чырвоным сукном, паабапал начальства — селі сьледчыя. Апошняй у габінэт Палітыкі прыйшла Камоцкая з «Галяй».

Узьняўся Палітыка:

— Арыштаваныя, устаць!

Арыштаваныя падняліся.

— Гэта яшчэ ня суд! Суд будзе! Справядлівы, але бязьлітасны суд! — Сядайце!

Палітыка сеў і сам, а адзін з высокага начальства — высачэзны й кантаваты — падняўся, відавочна прызвычаены гаварыць стоячы.

— Я займаюся даўно вашаю справаю, арыштаваныя, — пачаў ён, — ня толькі аднэю вашаю, канечне, а й сотнямі падобных. Карацей, я вывучаю нацдэмаўскую справу ў ваўсебеларускім маштабе. Але я не пра гэта хачу сказаць. Я тут зараз хачу падчыркнуць адзін факт, які вы можа недастаткова ясна уяўляеце сабе — *зьнітаванасьць* нацдэмаўскай контррэвалюцыйнай шпігунска-дывэрсыйнай арганізацыі, *сцэнтралізаванасьць* яе, ня гледзячы на сотні ейных адгалінаваньняў, раськінутых па ўсёй Беларусі. Ды як-бы ні была сцэнтралізаваная гэтая арганізацыя, цэнтра, я ўпэўнены, вы ня ведаеце, і такому адгалінаваньню, як, скажам, вашае ў Вышэйшым Пэдагагічным Інстытуце можа здацца, што яно ні з кім і ні з чым ня зьвязанае, што яно самастойнае, народжанае *мясцовымі* ўмовамі, нявіннае, бяз мэты і кірунку адгалінаваньне. Болей таго, вы можаце сказаць, што вашая ячэйка (умоўна назавем яе гэтак) жыла штодзённым агульнастудэнцкім жыцьцём і нічога такога не рабіла, чаго-б не рабілі і ўсе. І мы гатовыя навет згадзіцца з гэтым. Бальшыня сяброў (бяручы гэтае слова не фармальна) вашай нацдэмаўскай ячэйкі ў пэдінстытуце, запраўды, усяго толькі і рабіла, што чытала забароненую нацыялістычную літаратуру, шукала яе, і найчасьцей шукала яе таму, што яна *забароненая* літаратура. Бальшыня з вас ня лічыла гэта нейкім праступствам перад савецкай уладай. І я навет скажу тут, што у дадзеным выпадку ня вы вінаваты перад савецкай уладай, а яна перад вамі. Бо-ж гэта яны, мясцовыя ворганы савецкай улады, пазбавілі вас гэтай літаратуры. Пад рубрыкай забароненай літаратуры апынулася найістотнейшая частка беларускай літаратуры, і нам зусім зразумела ваша прыродная, натуральная цяга да яе. І гэта ніякая не нацдэмаўшчына! Нацдэмаўшчына пачынаўцца там і тады, калі нехта гэтую вашу натуральную цягу скіроўвае ў іншы бок і надае ёй палітычна-ідэялягічны характар, а ў некаторых выпадках прост улучае яе ў сфэру шпігунства, здрады й дывэрсыі. Хто накіроўвае вас і ўлучае, запытаецеся вы. Адкажу адразу — ваш Цэнтр. Дзе ён і які ён? І вось над гэтым трэба затрымацца . . . Да тых пор, пакуль у Вышэйшым пэдагагічным інстытуце пэўная група студэнтаў (і досыць вялікая) толькі чытала забароненую літаратуру, захаплялася ёю, сябравала паміж сабой і ня думала, што яна кантррэвалюцыйная група, да тых пор гэтая група ня была небясьпечнай для нас. І мы яе ня лічылі нацдэмаўскай. Але з часу, калі яе намацаў сваімі шчупальцамі Цэнтр, калі яна сталася ўцягнутай ім у вагульную арганізацыю, яна сталася небясьпечнай для нас. Вось чаму вы апынуліся тут. І тут я вам зраджу адзін сакрэт (прамоўца ўсьміхнуўся) — гэтаю начой, літаральна паўгадзіны таму назад, ворганы НКВД (прамоўца пасур'ёзьнеў) арыштавалі дадаткова сорак студэнтаў ВПІ. Яны цяпер тут, разам з вамі. І ўсё гэта толькі таму, што яны *ўцягнутыя,* няважна — разумеюць яны гэта, ці не. Яны апынуліся ў засягу Цэнтра, і з гэтага часу перасталі быць савецкімі студэнтамі.

Гэта адзін бок, які я хацеў тут закрануць. Ёсьць яшчэ іншы, аб якім і будзе мова . . . Самі па сабе вы для нас — ноль. І мы ня сталі-б з вамі вазёкацца, надаваць вам нейкае значэньне, набіваць вам цану, — вы ня вартыя, кажу, усяго гэтага. Нажаль . . . Нажаль (прамоўца затрымаўся) . . . нажаль, запахла порахам. Мы яго ўжо чуем, хоць ён яшчэ й на вялікай ад нас адлегласьці. Вы зьяўляецеся тым порахам, на які разьлічвае наш вораг. Так што, усё, што мы робім, ні больш, ні менш — санітарнае мерапрыемства. Гэта іншая рэч, што аднога санітарнага мерапрыемства мала для нас і мы змушаныя часамі ўжываць больш радыкальныя сродкі . . . Усіх вас ня так ужо й шмат, але мы бярэм на ўвагу, што ў кажнага з вас ёсьць бацькі, браты, сёстры, сваякі, і разам — гэта ўжо вунь якая армія! . .

Да гэтага часу прамоўца гаварыў і не глядзеў на арыштаваных. Ягоны зрок быў скіраваны ўвесь час на чырвонаармейцаў, што стаялі ззаду зьняволеных і былі быццам мішэняй для прамоўцы. Цяпер прамоўца затрымаў свой зрок на зьняволеных і, перачакаўшы з часіну, зноў пачаў, але ўжо зьмененым, ніжэйшым тонам:

А потым і яшчэ адно — гэтак званае нацыянальнае пытаньне. Скажу катэгарычна й шчыра (у НКВД гэта можна сабе дазволіць), што гэтае пытаньне здымаецца намі з парадку дзённага, як пытаньне, якое не забясьпечвае цэласьці савецкае Расеі. Вырашаць пазытыўна нацыянальнае пытаньне, значыць — разбураць Савецкі Саюз, а мы на гэта ніколі ня пойдзем. Так што, уласна кажачы, беларускае пытаньне ня мае будучыні. Разьвязаць нацыянальнае пытаньне ўнутры імпэрскай Расеі немагчыма, і ваш Цэнтр гэта ведае. Вось чаму разьвязкі нацыянальнага пытаньня ён шукае *вонках*. Адсюль — арыентацыя Цэнтра на буржуазны Захад, у сягоняшніх умовах — на Польшчу й на Нямеччыну.

Прамоўца паглядзеў на гадзіньнік і загаварыў хутчэй.

— Я ня сьледчы. Вашыя сьледчыя сядзяць побач мяне, і канчальна разьвяжуць вашае пытаньне. Побач дзяржаўнай функцыі, якую яно выконвае, у НКВД ёсьць адна яшчэ функцыя — *узгадаваўчая*. Я тут і выступаю з гэтай мэтай і спадзяюся, што маё выступленьне дапаможа вам разабрацца ў сутнасьці справы і стаць на шлях супрацоўніцтва з вашымі сьледчымі.

Прамоўца спыніўся, узяў з стала паперы, якія ляжалі перад ім, і гледзячы ў іх, пачаў:

— А вось і той Цэнтр, аб якім я гаварыў. Усяго, што я хачу тут зрабіць, гэта пералічыць некаторыя зь імёнаў, якія складаюць, ці складалі гэны Цэнтр: Ігнатоўскі, Баліцкі, Адамовіч, Чарвякоў, Лёсік, Прышчэпаў, Некрашэвіч, Бэк, Ульянаў, Цьвік, Убарэвіч і г. д. З прысутных тут цэнтраўцаў вы пабачаце чатырох: Жылуновіча-Цішку Гартнага, Дайлідовіча-

# Цэнтралізацыя ці аўтаномія эканомікі

Калі ў мінулым годзе, пры канцы верасьня, пленум ЦК КПСС пачаў эканамічную рэформу, шмат людзей думала, што ў ёй гарманічна спалучыцца ўзмоцненая цэнтралізацыя на вярхох з узмацненьнем аўтаноміі на нізох. Аўтарам эканамічнай рэформы здавалася, што савецкая эканоміка, апёршыся на гэтыя два прынцыпы — цэнтралізацыю й аўтаномію — хутка пойдзе наперад. Але здарылася наадварот: у першым паўгодзьдзі сёлета тэмпы росту прамысловай прадукцыі ніжэйшыя, чымся ў папярэднім годзе.

Ужо пасьля верасьнёўскага пленуму 65-га году выглядала так, што ЦК КПСС бярэцца спалучыць наспалучальныя рэчы — цэнтралізацыю з аўтаноміяй. Ніколі ў сьвеце такога ня бывала, каб ў эканоміку адначасова ўводзіліся рэчы, якія запярэчваюць адна другую. Ня было такога і ў СССР.

Калі ў 1919 годзе на Маскву наступала белая армія, партыі давялося адмовіцца ад дэцэнтралізацыі эканомікі і стаць на шлях жалезнай цэнтралізацыі «ваеннага камунізму». Гэтую цэнтралізацыю ўводзілі за кошт аўтаноміі. Калі-ж на пачатку 1921-га году партыя была змушаная адмовіцца ад ваеннага камунізму — цэнтралізацыя ў эканоміцы ўступіла месца шырокай аўтаноміі. І аўтаномію праводзілі тады за кошт цэнтралізацыі, а не ў спалучэньні зь ёй.

Цяпер, намагаючыся спалучыць неспалучныя рэчы, праз год пасьля абвешчаньня эканамічнай рэформы, пакуль-што зьдзейсьнілі толькі адну ейную палавіну — цэнтралізацыю. Пры гэтым зьдзейсьнілі з такім перабольшаньнем, што ад яе савецкая эканоміка скрыпіць і трашчыць.

Аднабаковае зьдзейсьненьне рэформы наймацней ударыла па правох саюзных рэспублікаў. У іх зьліквідаваныя па, асобныя эканамічныя міністэрствы, рэспубліканскія саўнаргасы, зьменшаныя правы рэспубліканскіх дзяржплянаў. У імглістай форме рэспублікам абяцалі збольшыць нейк іхныя правы. Але пасьля гэтай абяцанкі ніхто дасюль і не заікнуўся пра пашырэньне правоў саюзных рэспублік.

Аднак, калі-б справа закончылася абмежаваньнем правоў толькі нацыянальных рэспублік, а ўсё іншае пайшло добра, дык прыхільнікі аднабаковае цэнтралізацыі можа-б і цешыліся. Ды бяда іхная ў тым, што ў жыцьці ня бывае, каб цэнтралізацыя была для адных добрай, а для іншых дрэннай. Вось-жа, ударыўшы па рэспубліках, эканамічная цэнтралізацыя ўдарыла і па савецкай эканоміцы наагул. У СССР тэмпы прыросту прамысловай прадукцыі цяпер зьмяншаюцца.

Таму цяпер эканамічныя экспэрты што раз больш выступаюць супраць цэнтралізацыі. Яны пішуць пра патрэбу выданьня адмысловага закону пра правы й абавязкі галіновых міністэрстваў. таксама як выдадзены закон пра сацыялістычнае прадпрыемства. Іншыя вымагаюць паставіць над міністэрствамі дзяржаўны арбітраж, каб ён тармазіў цэнтралістычныя пасяганьні й бараніў правы й аўтаномію прадпрыемстваў. Але пакуль-што ўсё гэта — толькі папяровыя прапановы.

Нават эканамічны аглядальнік газэты «Праўда» Балбекаў у трох артыкулах пад загалоўкам «Міністэрства і заводы» прызнае няздольнасьць галіновага міністэрства «абняць неабдымнае». І характэрна тое, што справа тычыцца міністэрства машынабудаўніцтва, міністэрства якое ў рэспубліках ня мае нават саюзна-рэспубліканскага адгалінаваньня.

І вось якраз гэткім міністэрствам найбольш пагражае паралюш. Аўтар піша. што гэтае машынабудаўнічае міністэрства зваліла на сябе надта непасільны цяжар. Ён падае прыклады рэспубліканскіх заводаў, падпарадкаваных гэтаму міністэрству, і што гэтае падпарадкаваньне ня прыносіць ніякай карысьці.

У Беларусі, напрыклад, зрываюцца пляны ўводу ў экспляатацыю важнейшых новых прамысловых аб'ектаў. Нешта ня функцыянуе плянаваньне прадпрыемстваў, не дастаўляюцца на час праектная дакумэнтацыя, машыннае абсталяваньне й матарыялы. На будоўлях адчуваецца адсутнасьць сапраўднага гаспадара.

# Культурная рэвалюцыя ў Кітаі

Цяпер часта публікуюць матарыялы пра «культурную рэвалюцыю» ў Кітаі.

Што такое культурная рэвалюцыя, якая праводзілася амаль пакітайску і ў нас на Беларусі, хіба ня трэба тлумачыць беларускаму грамадзяніну. Асабліва старэйшаму пакаленьню.

Факты беззаконных дзеяньняў і, як называе ТАСС, «хуліганскія выхадкі» ў Кітаі нікога ня дзівяць і не выклікаюць у беларусаў абурэньня супраць кітайцаў. Навошта абурацца, што ў чужой хаце, нават ня ў суседняй, а дзесьці ў далёкай, канцавой ёсьць непарадкі, калі ў сваёй хаце няма ладу. Тое, што сёньня дзеіцца ў Кітаі, і ў нашай краіне ня так даўно адбывалася, ды яшчэ й цяпер ад былога пажару галавешкі тлеюць. Яшчэ й цяпер дагматыкі й прыхільнікі крамлёўскага дыктатара імкнуцца хоць часткова рэгабілітаваць зваленага з п)едэсталу Сталіна. Ужо чуюцца галасы ў савецкай прэсе аб тым, што трэба адкінуць такое паняцьце, як «культ асобы». Нават і сталінскіх чэкістых спаціху, паволі, пад тэрмінам «рыцараў рэвалюцыі», пачынаюць усхваляць і апраўдваць іхныя крывавыя справы. Ці ня ёсьць у такіх газэтных дапісах спроба павярнуць кола гісторыі на старую каляіну, у кірунку тэй «культурнай рэвалюцыі», што адбывалася ў сталінскую эпоху?

Чытаючы артыкулы аб сучасных падзеях у Кітаі, міжволі выплывае ў памяці аналягічнае мінулае нашай бацькаўшчыны. Пры гэтым трэба падкрэсьліць, што рэпрэсіі ў дачыненьні да гэтак званых «ідэялягічна варожых элемэнтаў» на Беларусі былі гэткімі-ж жорсткімі й бязьлітаснымі. Прыгадаем гады раскулачваньня, час прымусовай калектывізацыі, сьцягваньня хутароў, масавыя арышты й расстрэлы невінаватых, высылка заможных сялянскіх сем'яў на Поўнач. А перасьлед царквы, перасьлед свабоднай думкі, ціск на людзкое сумленьне, патураньне хлусьні й паклёпам — усё гэта пераажытае, балюча адчутае, аголеным нэрвам і незагоенай ранай вярэдзіцца.

Жудаснае і знаёмае бачаць беларусы, калі чытаюць паведамленьні аб тым, што кітайская чырвоная гвардыя выступае супраць некаторых партыйных і дзяржаўных прадстаўнікоў, дзеячоў навукі й культуры, што яна ганьбіць сучасных пісьменьнікаў, разбурае помнікі, паліць старыя, каштоўныя кнігі.

На Беларусі таксама грамілі грамадзкіх і палітычных дзеячоў. Але ня гэтак, як у Кітаі. Ім, праўда, не чаплялі на грудзі зьневажальных шыльдаў, як гэта робяць цяпер кітайцы. Іх лаялі на грамадзкіх сходах, у газэтах, абзывалі «ворагамі народу», «нацдэмамі». А ў выніку — турмы, канцлягеры. На канвэеры турэмных экзэкуцыяў прымушалі каяцца, прызнавацца на допытах у злачынствах, прыдуманых самымі сьледчымі, даводзілі да вар'яцтва, самагубства. А безьліч трыбуналаў — расстрэлы, расстрэлы. Гэта ўжо не аплявушыны кітайскіх падлеткаў. Больш жахлівае, крывёй залітае. Ахвярамі такой «культурнай рэвалюцыі» сталіся Галадзед, Чарвякоў, Ігнатоўскі, Жылуновіч і шмат іншых беларускіх дзеячоў. Былі рэпрэсыяваныя й расстраляныя ў 30-ых гадох беларускія вучоныя, акадэмікі, пісьменьнікі, настаўнікі. Лепшы цьвет нацыянальнай інтэлігенцыі загінуў у падвалах НКВД і на Поўначы ў лягерох. Такога генацыду, такога разгрому прадстаўнікоў нацыянальнай культуры ў чырвоным Кітаі пакуль што няма. Кітайцы старанна пераймаюць мэтады Сталіна і на свой манер праводзяць гэтак званую «вялікую пралетарскую культурную рэвалюцыю». У будучыні можна чакаць усяго.

«Зьвязда» падае розныя падрабязнасьці. Прыгадваецца ў ёй, напрыклад, песьня «Чырванее Усход», у якой Мао Цзэ-дун параўноўваецца з сонцам. А хіба ў Савецкім Саюзе джамбулы й суляйманы ў такіх параўнаньнях не выслаўлялі Сталіна? Яны ў адзін голас сьпявалі: калі сонца пагасьне, дык будзе сьвятло, бо Сталін — сонца ўсіх сонцаў.

Прыблізна з такімі-ж дыфірамбамі. запалоханыя сталінскім тэрорам, беларускія паэты пісалі праслаўуты «Ліст Сталіну».

А кітайскія дэманстрацыі й пагрозьлівыя выкрыкі чырвонагвардзейцаў вакол будынку савецкага пасольства? Ці ня ёсьць і ў гэтым перайманьне мэтадаў ад савецкіх кіраўнікоў? Беларусы памятаюць, як у дні забойства Вароўскага мясцовыя ўлады ў Менску падбухторвалі камсамольцаў, наладжвалі бурныя дэманстрацыі з пратэстамі каля будынку польскага консульства.

А разбурэньне ў Беларусі цэркваў, капліцаў. могільнікаў, княжых замкаў? Хто зьнішчыў старадаўныя помнікі архітэктуры? Хто Сафійскі сабор у Полацку ператварыў у сьвіран? Хто пазьдзекваўся над сьвятыняй беларускага народу? Пэўна, ня кітайцы. Гэта КПСС крычыць пра генэральную лінію і яшчэ з большай зацятасьцяй вядзе рашучы наступ на рэлігію, нацыянальную культуру, на духовую спадчыну нашых продкаў. І таму справядлівая крытыка «культурнае рэвалюцыі» ў Кітаі штурхае кожнага на глыбокі роздум

**К. Рамановіч**

# Палітычнае беспрацоўе ў Югаславіі

«Палітычнае беспрацоўе — вось што палохае югаслаўскіх прыхільнікаў мэтадаў адміністрацыйнага сацыялізму, — заўважыў адзін назіральнік і дадаў: — Але няхай іншыя кіраўнікі іншых «братніх» краінаў ня хваляцца, што ў іх палітычнага беспрацоўя гэтага тыпу няма. Хваліцца тут няма чым: гэта ня доказ посьпеху».

Для Югаславіі ўзьнікненьне «палітычнага беспрацоўя» — гэта значыць палажэньня, пры якім шматлікія партапаратчыкі рызыкуюць апынуцца бяз працы — сапраўдная ўдача: гэта палітычны вынік праводжанага ў нашы дні бязьлітаснага выкрыцьця гэтак званага адміністрацыйнага сацыялізму. У адным з сваіх апошніх артыкулаў белградзкая газэта «Палітыка» кваліфікуе такога выгляду сацыялізм, як «алігарха-этатычную клясавую сыстэму, што ўзьнікла ў выніку выраджэньня сацыялістычнай рэвалюцыі», і якая выкарыстоўвае камунізм у якасьці ідэялягічнага фасаду, што прыкрывае разыходжаньні паміж словам і справай».

Войстра крытыкаваў адміністрацыйны сацыялізм як канцэпцыю й практыку і старшыня югаслаўскай Скупшчыны Эдвард Кардэль. «Тое, супраць чаго мы павінны рашуча змагацца, — сказаў Кардэль, — гэта спроба накіданьня грамадзтву акрэсьленых этатычна-бюракратычных тэндэнцыяў як палітычнай манаполі, гэта значыць, фактычна. зброі экспляатацыі працоўных».

Кардэль абвесьціў войстрае, прынцыповае змаганьне адміністрацыйнаму сацыялізму. «Дылема югаслаўскага дня, — падкрэсьліў Кардэль, — гэта, ці будзе ўсё больш разьвівацца ў рамках нашай сыстэмы грамадзкае самакіраўніцтва, ці застанецца й далей і будзе ўсё больш умацоўвацца ўлада дзяржавы, як сымбаль улады над чалавекам, улады, якая практычна ператварае працоўнага ў нязначнага й незацікаўленага ў сваёй працы падзёншчыка». Таму Кардэль супраць «тэндэнцыяў да палітычнага абсалютызму і ўзвышэньня прынцыпу цьвёрдай рукі; тэндэнцыяў, якія выплываюць з канцэпцыяў адміністрацыйнага сацыялізму зь ягоным «адзінаначальлем».

Беспасярэдня пасьля пятага пленуму ЦК Саюзу камуністых Югаславіі, у іншай прамове, Кардэль нядвузначна даў зразумець, што тыя, хто застыў на пазыцыях адміністрацыйнага сацыялізму, у сутнасьці зьяўляюцца носьбітамі, як ён сказаў, этатычна-тэхнакратычнай ідэялёгіі, якую мы звычайна называем сталінскай». Мова Кардэля ня новая ў тым, што тычыцца сталінскай, клясавай, экспляататарскай сутнасьці адміністрацыйнага сацыялізму. Падобныя цьверджаньні можна сустрэць у цэлым шэрагу югаслаўскіх партыйных дакумантаў, улучаючы й праграму Саюзу камуністых Югаславіі.

Але пасьля чацьвертага пленуму ЦК, на якім было пастаноўлена правесьці карэнную рэарганізацыю партапарату й службы дзяржаўнай бясьпекі, гэтай мовай на ўвесь голас загаварылі й на масавых мітынгах, нарадах, у прэсе, у радыё й тэлебачаньні. Загаварылі ня толькі кіраўнікі; загаварыла партыйная маса і нават беспартыйныя. Гэта ўжо нешта новае.

Зразумела, ніхто ня жывіць ілюзіяў, што цяперашняе югаслаўскае кіраўніцтва зацікаўленае ў поўным выкараненьні пустазельля адміністрацыйнага сацыялізму і ягоных прыхільнікаў. Але тое, што ў канчальным выніку пастанова залежыць ня толькі ад кіраўніцтва, паказвае рэкордная лічба зьнятых з становішчаў нізавых партсакратароў і дырэктараў прадпрыемстваў. Але гэта іншае пытаньне.

Ня трэба, аднак, забывацца, што мэтады адміністрацыйнага сацыялізму прывялі ня толькі да інфляцыі, ня толькі да войстрага крызіснага застою ў эканоміцы, але й да адкрытага крызісу ў партыі.

Анэмічнасьць, пасыўнасьць кадраў, змаганьне фракцыяў, адставаньне ад працэсу разьвіцьця грамадзкага самакіраўніцтва — вось толькі некаторыя зьявішчы, якія абмяркоўваліся на чацьвертым і пятым пленумах і пазьнейшай унутры-партыйнай дыскусіі.

Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што выхад з палажэньня бачыцца ў яшчэ больш радыкальнай дэмакратызацыі, у строгім і пасьлядоўным разьмежаваньні функцыяў партыі й органаў дзяржаўнай улады і ў выключэньні з партыйных шэрагаў камуністых із сталінска-адміністрацыйнай ахварбоўкай, якія «папоўняць шэрагі «палітычных беспрацоўных».

Так, здань палітычнага беспрацоўя прыхільнікаў адміністрацыйнага сацыялізму ўжо зьявілася ў аднэй камуністычнай краіне. А гэта вельмі важна: мяркуючы па ўсім, гэтая здань даволі «інтэрнацыяналістычная». Парафразуючы Маркса, можна сказаць, што яна хутка пачне брадзіць па ўсёй Усходняй Эўропе.

---

Алеся Дудара, Касянкова-Міхася Зарэцкага, Кудзельку-Міхася Чарота. — Прашу падняцца!

«Цэнтраўцы» падняліся.

Раман Корзюк і іншыя арыштаваныя насьцярожана паглядзелі на іх, але ня выявілі ніякага асаблівага зацікаўленьня. «Цэнтраўцы», слаба ўхмыляючыся, паголеныя і ў гарнітурах, бяссэнсоўна і ледзь прыкметна паварочваліся направа і налева, быццам кланяючыся.

— Сядайце!

«Цэнтраўцы» селі.

— Гэта, так сказаць, навочны вам прыклад. Возьмем цяпер вас саміх, ячэйкаўцаў. Хто вы і што вы? Паглядзімо на Генадзя Кандраценю. — Кандраценя, станьце!

Кандраценя ўзьняўся і ўсе мускулы на ягоным твары зайгралі, алеістыя вочы засьмяяліся й забегалі.

— Кандраценя — гэта вельмі важнае зьвяно ў нацдэмаўскім ланцугу. Яго перакінула да нас яснавельможная Польшча і ён лазіў тут у нас даволі доўга. Зьнюхаўся з начальнікам нашай пагранзаставы і зь яго дапамогай перапраўляў за мяжу забойцаў, дывэрсантаў і розных контррэвалюцыянэраў, у тым ліку сям'ю Корзюкаў. Працаваў і на ідэялягічным фронце. — Сядайце, Кандраценя!

— Шаркевіч!

Узьняўся Шаркевіч.

— А гэта вось Кандраценяў памочнік і выканаўца ўсіх ягоных плянаў. Знаўца граніцы і майстра пераходзіць яе. — Сядайце, Шаркевіч!

— Корзюк!

На ўвесь свой рост падхапіўся Корзюк.

— А гэта вось, бачыце, галоўная сіла ў нацдэмаўскай ячэйцы Пэдінстытуту. Сын забойцы. Быў перакінуты ў Польшчу ўсё тымі-ж Кандраценем і Шаркевічам, але па загаду Цэнтра вярнуўся адтуль з мэтай барацьбы з савецкай уладай і ейнымі прадстаўнікамі. Кандраценя рыхтаваў Корзюка на тэрарыстага, забясьпечваючы яго ня толькі грашыма, а й зброяй. Усё гэта было знойдзена ворганамі міліцыі і НКВД на кватэры Рамана Корзюка. — Сядайце!

Корзюк адразу ня сеў, а запытаўся, ці запраўды высокі начальнік болей не патрабуе яго, у выпадку патрэбы ён мог-бы паслужыць яму дэкарацыяй колькі спатрэбіцца.

— Камоцкая!

Камоцкая не ўставала. Высокі чын папрасіў яе яшчэ. Аднак, Камоцкая ўсё сядзела.

— Камоцкая, пакажэцеся!

— А дулі ня хочаце, каб я вам паказала!

І ўсё заставалася сядзець.

— Няважна... Адным словам, Камоцкая заблыталася ў кантррэвалюцыйных сувязях і цяпер не валодае сабой. Камоцкая выкрала маці і сястру Корзюка з-пад аховы раённага НКВД і даставіла іх на хутар Шаркевіча, адкуль іх, разам з рэштай Корзюкавай сям'і Шаркевіч перакінуў у Польшчу.

— На гэтым я канчаю. Я хацеў-бы спадзявацца, што карціна. намаляваная мною й падмацаваная канкрэтнымі прыкладамі, гаворыць сама за сябе.

Высокі начальнік сеў. Атрымаўшы ад аднаго сьледчага нейкую папку, ён вылез з-за стала, за ім падняўся і другі высокі начальнік. Абодвым ім сьледчыя зноў аддалі чэсьць і яны выйшлі з габінэту.

Сьледам за імі чырвонаармейцы вывелі «цэнтраўцаў», а таксама й Кандраценю...

...Вокны пачалі ўжо сінець ранішняй трывогай, але ў габінэце Палітыкі гэтага не заўважалі. Яркае сьвятло, як і раней, выядала вочы й здавалася начы ня будзе канца. Толькі вялікі гадзіньнік, што бесьперастанку тахкаў на сьцяне, здавалася, пайшоў хутчэй, быццам даючы гэтым знаць, што ён даволі ўжо адмерыў начы і што яна ўжо канчаецца.

За Камоцкай у габінэт зайшла «Галя». Устаючы зь мейсца, Камоцкая ні разу не зірнула на Рамана, хаця той увесь час, пакуль Валя ішла да дзьвярэй, глядзеў ёй усьлед.

— Бывай, Валя!

Камоцкая, нічога не адказваючы, выйшла з «Галяй» на карыдор...

— Сцэнічнае мастацтва на сягоньня скончылася! — сказаў Палітыка. — Заўтра пачнем мастацтва сапраўднае!

Людзі ў форме, што даўно чакалі пад дзьвярыма на карыдоры, увайшлі ў габінэт і паасобку забралі, спачатку Корзюка, а потым Шаркевіча.

27.

У тую самую ноч, калі Палітыка, разам із сваім вышэйшым начальствам, інсцэнізаваў у НКВД «нацдэмаўшчыну», у Вышэйшым Пэдагагічным Інстытуце адбыліся вялікія арышты. За ноч было арыштавана сорак студэнтаў, пераважна з літаратурнага й гістарычнага факультэтаў. Але трапілі ў гэты лік і студэнты з іншых адзьдзяленьняў, напрыклад з пэдалёга-пэдагагічнага. Асабліва латошылі ў тую ноч інтэрнаты на Энгельса і ў Галоўным корпусе Унівэрсытэцкага Гарадка. Людзі з НКВД былі поўнымі гаспадарамі тае начы. Але яшчэ ўдзень перад тою начой і ўвечары, калі толькі што пачынала шарэць, можна было заўважыць іх, пераадзетых у штацкае, на сходках і ў пад'ездах гэтых інтэрнатаў. Яны асьцярожна й коратка праходзіліся тут і зьнікалі гэтаксама, як і зьяўляліся — нечакана й няпрыкметна. Апрача тэхнічак іх ніхто й не заўважаў. А калі пераваліла за поўнач, яны пад'ехалі на машынах, размаляваных і быццам прызначаных для развозкі хлеба па магазынах, на такіх-жа самых машынах, якімі карысталіся і ў горадзе, з надпісам «хлеб» на розных мовах, у тым ліку й на замежных. Пазьней гэны «хлеб» яны везьлі на Урыцкага, у турму.

У самым найбольшым пакоі інтэрнату на Энгельса, пасьля дванаццатай, калі ўжо ўсе вярнуліся з гораду й спалі моцным маладым сном, загарэлася вісючая над сталом вялікая электрычная лямпачка, ярка асьвяціўшы ложкі, што цесна стаялі паўз сьцен. Ззаду людзей, якія ўвайшлі ў пакой, стаяла тэхнічка і, калі трэба было, паказвала, дзе хто сьпіць. Патрэбных студнтаў ціха будзілі, каб ня чулі іншыя, гаварылі ім, што яны арыштаваныя, загадвалі ўставаць і зьбірацца. Ішоў вобыск, пісаліся пратаколы. Усё гэта рабілася хутка. Суседзі па ложку, прачнуўшыся, прыкідваліся соннымі, і калі патрэбныя былі сьведкі, іх нельга было дабудзіцца. У такім разе падпісвала пратакол тэхнічка. Калі ўсё ўжо было гатова, арыштаваных выводзілі і лямпачка гасла. Але дармо — ніхто ня мог болей спаць у тую ноч.

Тое-ж самае дзеялася і ў інтэрнаце Галоўнага корпусу. Але там апэрацыя арыштаў праходзіла лацьвей: пакоі маленькія, на тры-пяць чалавек, і можна было не сьцерагчыся вельмі. А часамі здаралася. што забіралі цэлым пакоем, дык тым балей ніякага розгаласу баяцца ня трэ было. Адылі, як-бы латва не праходзілі тут арышты, слых аб іх бліскавічна разьнёсься па ўсіх карыдорах. Быццам у нейкай самаабароне тушыліся на карыдорах лямпачкі. Згашаныя былі яны й на той пляцоўцы, дзе на Кастрычнік былі танцы.

Спакойна спаў толькі манастыр. Для яго гэтая ноч была, як і ўсе іншыя ночы. Тым балей ашаламіла яго раніца, калі яна наступіла.

А гэта была самая палахлівая раніца ў інстытуце, раніца дваццаць чацьвертага лістапада 193** году.

# Сёмая сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі

У Беларусаў ЗША й Канады ўвайшло ў прыгожую традыцыю ладзіць спатканьні, якія адбываюцца кажны другі год і кажны раз у іншым беларускім асяродку. У гэтым годзе такое спатканьне мела месца ў Кліўлендзе, куды й зьехаліся прадстаўнікі ўсіх беларускіх асяродкаў Паўночнае Амэрыкі.

Паколькі такія спатканьні забіраюць многа часу на падарожжа, дык яны назначаюцца на «Labor Day» — Дзень Працы, што прыпадае ў панядзелак 6-га верасьня. Такім чынам для спатканьня ёсьць тры дні: сыбота, нядзеля й панядзелак.

Кажная з гэтых сустрэчаў прысьвечана нейкай беларускай падзеі. Папярэдняя сустрэча, напрыклад, якая адбывалася ў Нью Брансвіку (Нью Джерзі) у 1964 годзе, была прысьвечана 20-годзьдзю новае беларускае палітычнае эміграцыі. Цяперашняя-ж сустрэча была прысьвечана 60-ці годзьдзю газэты «Наша Ніва».

Я ехаў на сустрэчу зь Нью Ёрку, таму спынюся больш на нашай групе. Падрыхтоўка да спатканьня вялася ўжо ад некалькі месяцаў. Заказалі аўтабус зь Нью Ёрку, які па дарозе мусіў забраць і Беларусаў зь Нью Джэрзі. Падрыхтоўвалі рэфэраты й прамовы, перапісваліся зь сябрамі й сваякамі, каб прыехалі ў Кліўленд бо гэта-ж найлепшая нагода спаткацца й падзяліцца думкамі... Нарэшце надыйшоў доўгачаканы час. У сыботу 4-га верасьня падыйшоў аўтабус да Грамадзкага Цэнтру ў Гайлэнд Парк, каб забраць Беларусоў зь Нью Джэрзі. Баяліся, што ня будзе месца ў аўтабусе, але некалькі асобаў не зьявілася з прычыны хваробы ў сям'і, а пара асобаў мелі нешчасьлівыя выпадкі на працы й мусілі астацца ў ложку.

### Па дарозе ў Кліўлэнд

А 7.30 раніцы аўтабус рушыў з Гайлэнд Парк. Пасьля кароткіх сямейных пытаньняў: як гадуюцца дзеткі, як здароўе жонкі, у цэнтры аўтабуса нехта зацягнуў песьню «Ці ўсе лугі пакошаны», якую падхапілі амаль усе пасажыры. Кажу «амаль усе», бо былі й такія, якія наракаюць, што ім «слонь на вуха наступіў». Песьні гучалі некалькі гадзінаў, але ўрэшце «хор» пачаў слабнуць — аўтабус закалыхваў і роўны гул матору дзейнічаў як «Калыханка». Каб падбадзёрыць сьпевакоў — пачаліся заказы на песьні. Ня проста заказы, бо за кажную песьню плацілі 25 цэнтаў. Хто хацеў, каб абавязкова «ягоную» песьню засьпявалі першую, дык падымаў цану. Магчыма, што сьпявалі-б яшчэ ў Кліўлэндзе выходзячы з аўтабуса, але недалёка ад гораду спаткаў нас дождж-лівень, дык уся ўвага была зьвернута на тое, што робіцца за вокнамі аўтабуса і кажны ў душы шкадаваў, чаму гэты дождж ды ня ў нас, дзе ад даўжэйшага часу так сушыць.

### У Кліўлэндзе

Арганізатары Сустрэчы разьлічвалі, што мы будзем у Кліўлендзе яшчэ перад 4-ай гадзінай па паўдні, а таму й назначылі на 4-ую гадзіну рэфэрат д-ра Я. Станкевіча пра «Нацыянальнае ўсьведамленьне». Аўтабус-жа падыйшоў да Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Кліўлэдзе а 5-ай гадзіне па паўдні. Рэфэрат не адбыўся. У Кліўлэндзе ў тым-жа Грамадзкім Цэнтры была ўжо гатовая для нас вячэра, а а 9-ай гадзіне мелася быць танцавальная вечарына. Здавалася часу на'т замнога, але гэныя чатыры гадзіны прайшлі так хутка, што пачалі ўжо клікаць: «Едзем танцаваць!»

### Вечарына

Танцы пачаліся а 9-ай гадзіне вечарам. Бяручы на ўвагу вялікую колькасьць людзей у залі — танцавала даволі мала. Людзі, спаткаўшыся праз так доўгі час, маюць ахвоту пагутарыць, а не танцаваць.

Прыемна было спаткаць сяброў і знаёмых праз 20 год! Людзі зьмяніліся — пастарэлі, аднак сяброўскія гутаркі, сьмехі й жарты не зьмяніліся. Многія, а ў тым ліку й аўтар гэтых радкоў, даўно не перажывалі такога духовага задаваленьня, як у гэты незабыўны вечар

### Другі дзень сустрэчы

У нядзелю 4-га верасьня а 10-ай гадзіне раніцы пачалася Божая Служба ў БАПЦаркве, якую адслужылі а. Аляксандар, настаяцель Кліўлэндзкага Прыходу і а. Міхаіл з Канады ў саслужэньні дыяканаў Савіцкага з Кліўлэнду й Валюкевіча з Ротфорду. Бельмі прыгожа сьпяваў царкоўны хор пад умелым кіравецтвам ягонага дырыгэнта сп. К. Кіслага.

А 2-ой гадз. па паўдні ўсе дэлегаты сабраліся на ўрачысты банкет у Шэратон Кліўлэнд Гатэль з удзелам мэра гораду Кліўлэнду й прадстаўнікоў гарадзкое ўправы. Галоўным прамоўцам на банкеце быў кангрэсмэн Michael A. Feighan — вялікі прыяцель Беларусаў.

Банкет адкрыў сп. С. Карніловіч — Старшыня Кліўлэндзкага Аддзелу БАЗА. Пасьля ўступнога слова ён перадаў весьці ўрачыстую частку сп. Пляскачу, які зьяўляўся афіцыяльным «спікерам» ці кіраўніком банкету.

Адыйграньнем амэрыканскага нацыянальнага гымну ў выкананьні кампазытара Куліковіча на піяніне, адбылося афіцыяльнае адкрыцьцё банкету, пасьля чаго а. Міхаіл з Канады прачытаў малітву. Далейшую праграму вёў мгр. Пляскач.

У кароткай, але ў вельмі зьмястоўнай прамове інж. М. Гарошка — Старшыня Галоўнай Управы БАЗА ў ЗША — паказаў мэту й заданьні гэных спатканьняў. Пасьля мгр. Грыцук, Старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Канадзе, выступіў з прывітальнай прамоваю.

Падчас банкету выступалі з прамовамі шматлікія амэрыканскія госьці, аднак найлепшаю прамоваю была прамова кангрэсмэна Фэйгана. Ён падкрэсьліў, што беларусы запраўды маюць гонар трымаць гэтую канвенцыю ў Кліўлэндзе, у горадзе, які паўстаў і складаецца із столькі нацыянальнасьцяў і нацыянальных арганізацыяў, а паміж імі і з Беларусаў.

«Маю гонар вітаць беларускую канвэнцыю й жадаць хуткае незалежнасьці Беларусі, зьнішчэньня бязьлітаснага расейскага імпэрыялізму.

«Мы ўсе былі задаволеныя 25-га сакавіка 1918 году, калі Беларусь абвесьціла сваю незалежнасьць, аднак, нажаль, гэтая краіна была аграблена з тых правоў, якія маюць большыя й меншыя народы.

«Машая праца вынясла праблему Беларусі вонкі вашай краіны, зрабіўшы яе праблемай інтэрнацыянальнай, і я веру, што запраўдны мір наступіць толькі тады, як усе народы атрымаюць сваю незалежнасьць, а ў тым ліку й беларускі народ».

У беларускай нацыянальнай вопратцы сп-шня Галіна Кананчук уручыла сэнатару падарунак.

Дзякуючы за падарунак, сэнатар Фэйган сказаў: «Я запэўніваю вас, што і ў будучыні я не спыню служыць маёй краіне, мэтай якое зьяўляецца толькі мір, які можа быць дасягнуты толькі тады, як большыя й меншыя народы, а ў тым ліку й шматмільённы беларускі народ, атрымаюць сваю незалежнасьць».

Падзяка сэнатара Фэйгана таксама як і ягоная прамова перарывалася воплескамі й авацыяй. Пасьля мгр. Пляскач прадставіў беларускіх палітычна-грамадзкіх дзеячоў із ЗША й Канады, а таксама зрабіў заклік даць ахвяру на газэту «Беларус».

Д-р Ст. Станкевіч выступіў із спэцыяльным заклікам матарыяльна падтрымаць газэту. З гэтай мэтай загадзя былі разложаныя капэрцікі на сталох, у якія дэлегаты й госьці ўлажылі 431,25 даляраў. Заклік, як бачым, ня быў «голасам у пустыні».

### Канцэрт

Пасьля кароткага перапынку, сп. Кіслы адкрыў мастацкую частку, прадставіўшы камп. Куліковіча, які ў сваю чаргу паўжартам зазначыў, што падчас афіцыяльнае часткі ні яго, ні ягонае жонкі (сп-ня Градэ) ня ўспомнілі, пакуль нехта не падаў сп. Плескачу запіску.

Мастацкая частка была запраўды вельмі багатая й вельмі ўдалая. Вось яна па парадку выступаў:

1. Пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага выступіў Кліўлэндзкі Жаночы Ансамбль і вельмі прыгожа выканаў дзьве песьні: «Родная старонка — Беларусь мая» і «Ой, ня кукуй зязюленька».

2. Саліст Коля Стрэчынь, пад акампаніямэнт на піяніне праф. Бодэнбо выканаў «Ціха растрывожыла» і ў італьянскай мове «Ля Донна Мобіле», што была выкліканая на «біс». Тут мы зразумелі, чаму сярод амэрыканцаў Кліўлэнду Коля атрымаў мянушку «беларускага Карузо».

3. Кліўлэндзкая танцавальная група дзяўчат выканала беларускі народны танец «Бульба».

4. Барытон з Дэтройт'у, Уладзімер Жарскі, выканаў дзьве песьні: «Жыў на сьвеце Лявон» і «Я іду дарогай, дзе красуюць нівы...» на словы Ул. Клішэвіча й музыку камп. Куліковіча. Шкада, што марнуецца такі талент!

5. «Васількі» — словы й музыка камп. Куліковіча — выканала ведамая ўжо опэрная сьпявачка сп-ня Градэ пад акампаніямэнт яе мужа камп. Куліковіча, а таксама «Грэнада» ў італьянскай мове й «Месячыку месяц» на словы Ул. Жылкі.

6. Танцавальны Гурток Згуртаваньня Беларусаў Канады, пад кіраўніцтвам сп. Кіркі Барыса, вельмі прыгожа й памастацку выканаў два танцы: «Крыжачок» і «Лявоніху». Апрача добрага выкананьня, прысутныя захапляліся іхнымі беларускімі строямі.

Тут зрабілі кароценькі перапынак, бо праграма вялікая, а часу мала.

З дакладам на тэму 60-годзьдзя «Нашай Нівы» й Нашаніўства выступіў д-р Ст. Станкевіч. Рэфэрат быў вельмі добра апрацаваны, а таму й слухалі яго зь вялікай цікавасьцяй.

Навязваючыся да дакладу д-ра Станіслава Станкевіча, д-р Жук-Грышкевіч выступіў з успамінамі з Нашаніўскага пэрыяду. Успаміны свае ён абмежаваў да роднага мястэчка Буцлава на Віленшчыне ў 1911 годзе. У гэтым годзе вяртаецца сястра Грышкевіча з Рыгі, куды была паехала з мэтай заработку, бо на месцы працы ня было. З сабою яна прывязла адзін нумар газэты «Наша Ніва». Гэты, сказаў-бы, выпадак паслужыў тэй іскрай, зь якое разгарэўся моцны беларускі нацыянальны рух у Буцлаве.

У сваіх успамінах д-р Жук-Грышкевіч паказаў, наколькі беларускі нацыянальна-вызвольны рух меў спантанічны, стыхійны характар.

Як было прыгадана яшчэ на пачатку, у сыботу — з прычыны спазьненьня — не адбыўся рэфэрат д-ра Я. Станкевіча. Выкарыстоўваючы нагоду, што да танцавальнай вечарыны аставалася яшчэ пару гадзінаў часу, д-р Я. Станкевіч тут-жа прачытаў свой даклад.

### Апошні дзень Сустрэчы

Як і было прадбачана арганізатарамі, а 10-ай гадзіне раніцы адбылася нарада прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў ЗША й Канады ў царкоўнай залі БАПЦ. Галоўнымі пунктамі нарадаў былі:

1. Прыняцьце рэзалюцыі Сёмае Сустрэчы.

2. Месца Восьмае Сустрэчы, якая паводля пляну мае быць у 1968 годзе. Характэрным на гэнай нарадзе было тое, што пасьля аднагалоснага прыняцьця рэзалюцыі пачалося спаборніцтва за месца наступнае сустрэчы. Людзі не адмаўляліся, а наадварот, кажны асяродак стараўся наступную сустрэчу перанесьці да сябе. Галасаваньнем большыня выказалася за Дэтроіт, з чаго нашыя суродзічы з Канады засталіся незадаволеныя. Такім чынам наступная Восьмая Сустрэча Беларусоў Паўночнае Амэрыкі мае адбыцца ў 1968 годзе ў горадзе Дэтройт і будзе прысьвечаная 50-годзьдзю абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га Сакавіка 1918 году.

### Падарожжа з Кліўлэнду

Пасьля прыняцьця рэзалюцыі й выбраньня месца на наступную Сустрэчу, усе выйшлі на сьвежае паветра. На вуліцы стаяў ужо наш аўтабус. Ягоная прысутнасьць прыгадала аб хуткім разьвітаньні. Людзі гаманілі, як-бы сьпяшаліся дасказаць недасказанае. Надыйшла першая гадзіна, і зь песьняю «Бывайце здаровы, жывіце багата» мы рушылі ў напрамку Нью Джэрзі.

Як і трэба было спадзявацца, ужо ня песьні былі ў аўтабусе. Людзі гаманілі, дыскутавалі, дзяліліся ўражаньнямі, крытыкавалі. У міжчасе сп. Тулейка частуе бісквітамі, што накупляў на дарогу за тыя грошы, якія зарабілі песьнямі едучы ў Кліўлэнд. Набліжаемся да Нью Джэрзі і ў аўтабусе паволі заціхаюць дыскусыі...

**Ул. Бакуновіч**

# Залежы магнію ў Беларусі

**(Заканчэньне з 4-ай бач.)**

ад трох да сямі з палавінай мэтраў. Паводля папярэдніх дадзеных, яны ўтрымліваюць 23-24 працэнты хлёрыстага магнію, што ў пэўнай ступені перавышае паказчыкі адзінага ў Савецкім Саюзе Салікамскага месцанараджэньня хлёрыстага магнію. Асноўнаму віду руды спадарожнічаюць хлёрысты калій і іншыя каштоўныя кампанэнты.

Памеры месцанараджэньня, адкрытага на Палесьсі, і ягоныя запасы дастатковыя для арганізацыі комплекснай распрацоўкі рудаў».

Многа скарбаў хаваюць яшчэ нетры беларускай зямлі. Але і ўжо выкрытыя залежы здольныя значна інтэнсыфікаваць эканоміку Беларусі і пазытыўна ўплысьці на жыцьцёвы ўзровень насельніцтва. Усё залежыць ад таго, для якіх мэтаў гэтыя багацьці будуць выкарыстоўвацца. Дасюль беларуская нафта плыве ў краіны гэтак званай народнай дэмакратыі, беларускія мінэральныя ўгнаеньні ідуць таксама за межы рэспублікі. А што з гэтага мае Беларусь? Вось пытаньне, на якое беларуская грамадзкасьць мае права дамагацца адказу ад уладаў.



Усе дзяўчаты прыйшлі з манастыра на заняткі ў інстытут, як і звычайна, перад самым званком. За катэдрай, аблакаціўшыся, стаяў Пятухневіч і, склаўшы свае губы ў нейкай горкай запытальнасьці, ад чаго ягоны падбародавіч як-бы выцягнуўся і ў сваю чаргу гэтаксама аб нечым пытаўся, глядзеў перад сабою і быццам нічога ня бачыў, маўклівы й акамянелы. Лекцыі не пачынаў, быццам на некага чакаў. Дзічкоўская, увайшоўшы ў аўдыторыю й пабачаўшы, што яна напоўпустая, спынілася адразу-ж каля самых дзьвярэй. Павярнуўшыся да сваіх сябровак, што таксама спыніліся за ёю, запыталася:

— Дзяўчаты, глядзеце, дзе-ж гэта падзеліся нашыя хлопцы?

Пятухневіч як-бы ня чуў гэтага і ўсё заставаўся ў той-жа самай позе. Ён толькі бачыў, як селі на сваё месца Дзічкоўская, Шкляр, Лагоўская, Аўсеева, Ларыса, але, здавалася, ня ўспрыймаў гэтага, яго вочы глядзелі няпрысутным, патойбочным паглядам. Чакаў і лекцыі не пачынаў.

Роза Шкляр непазнавальна зьмянілася: яна ўбачыла, што ў ліку адсутных быў і ейны Каплеўскі; заўсёды сьмяшлівыя вочы яе спыніліся й застылі, а твар, звычайна белы ад пудры, зачырванеўся. Бася Цьпіна ня ўгледзела за сваім столікам Петрака Шыракова, і Дзічкоўская, да якой ужо пасьпеў вярнуцца ейны зласьлівы гумар, прыкмеціўшы гэта, выпаліла:

—Бася, цяпер ня будзе каму адразаць у цябе каўбасы — сьцізорыка твайго няма таксама. Ня толькі-ж аднаму Раману Корзюку адседжвацца! Бачыш, як падмялі!

З хлапцоў прыйшлі на заняткі Шынкевіч, Яначкін, Пелагейчык. Навет Шарамецьцева й таго забралі. Сьцяпана Мялешкі атксама ня было.

— Паўторым тэзы нашай папярэдняй лекцыі! — раптам пачуўся голас прафэсара Пятухневіча, які меў заўсёды звычай пачынаць сваю лекцыю гэтымі словамі. Не пасьпеў прафесар Пятухневіч паўтарыць «тэзаў», як зьявіўся Сьцяпан Мялешка і аб'явіў, што па загаду дырэктара заняткаў ня будзе і што замест гэтага склікаецца агульны сход студэнтаў і выкладчыкаў.

— Вось табе й тэзы! — ні то жартліва, ні то сур'ёзна тыцнула Дзічкоўская пад бок Цыпіну, што села сягоньня побач яе.

— Дык як-жа, таварыш Мялешка? Ужо й ня будзе лекцыі? — уськінуў прафэсар на Мялешку спалоханы пагляд сваіх вачэй.

— Такі загад, таварыш прафэсар.

Пятухневіч заўсёды баяўся сходаў — ён ніколі не чакаў ад іх добрага для сябе. Тым балей баяўся сягоньняшняга сходу. Пятухневіч даведаўся аб арыштах яшчэ перад заняткамі і добра ўяўляў сабе, які гэта будзе сход. Згрэб свае сьпісаныя алавіком лісткі, паклаў іх асьцярожна й акуратна ў партфэль. Паглядзеў нейк асабліва на студэдтаў і ягоныя губы зноў складіся ў журботную і нібы вінаватую напоўусмылку. Пятухневіч быццам разьвітваўся із студэнтамі. Прынамся, такое ўражаньне склалася ў іх. Выглядала, што Пятухневіч шкадуе, што ягоная лекцыя засталася не прачытанай. На самай-жа справе гэта было ня так: Пятухневіч баяўся, што гэта ягоная апошняя лекцыя наагул. І Пятухневіч не памыліўся. Узяў партфэль і, стулены, выйшаў.

Студэнты падняліся з-за сталоў, але з аўдыторыі ня выходзілі, стаялі гуртам, зачыналі гаворку, хаця яна хутка й абрывалася.

— Шынкевіч, а чаму цябе не арыштавалі? — распачала свой жарт Дзічкоўская і пайшла, сьмяючыся, на яго з кулакамі: — чаму вас усіх не арыштавалі — і цябе, і цябе, і цябе! — біла яна з падскокам кажнаму ў жывот сваімі маленькімі кулакамі. — Ня люблю я такіх хлопцаў! Вы нікому не патрэбныя!

Яна шукала яшчэ Мялешку, але той ужо пасьпеў выйсьці.

— Хто куды, а я ў буфэт! — зводзячы на другое гутарку, выгукнуў Пелагейчык: — Оля пабіла жывот кулакамі, дык баліць — пайду палячу малачком.

— Ідзеце і вы ўсе з Пелагейчыкам, я-ж вас усіх пабіла, — лячыць свае жываты! — Зараз-жа! Каб вас тут болей я ня бачыла!

Жарты Дзічкоўскай ня вельмі выходзілі —мала хто сьмяяўся. Лагоўская не гаварыла ні слова. А Ларыса й зусім адыйшлася ад гурту і стала ля вакна, углядаючыся ў голыя галінкі дрэў на панадворку.

Выйшлі на карыдор і ўбачылі ля дошкі абвестак вялікі натоўп студэнтаў. Дзяўчаты накіраваліся туды. Загадам дырэктара выключаліся із складу студэнтаў усе арыштаваныя. Дзяўчаты табункам завярнуліся й пасьпяшаліся да выхаду.

На двары сеелася імжака. Дзяўчаты туліліся адна да аднэй, настаўлялі каўняры-зябка. У паветры як-бы малолася вільгаць і, прасеяная на самым танюсенькім сіце, спадала ні то сьцюдзёнай зольлю, ні то дажджом. Дрэвы ад ветру хісталіся і зь іх сыпаліся буйныя кроплі дажджу. І таму дзяўчаты перайшлі на другі бок вуліцы, дзе ня было прысадаў. Іхныя валасы хапаў вецер і яны часта спыняліся, павяртаючыся сьпіной ад ветру. Але ўсё роўна ён даймаў іх, безабаронных, у паношаных палітончыках нарасхліст. На завароце сквілілі трамваі, ахутаныя дажджанай імглой.

У карыдоры манастыра дзяўчаты ўгледзелі бацькоў Валі Камоцкай, якіх яны ведалі яшчэ з ранейшых часоў. Яны прыехалі за дачкінымі рэчамі. Стаялі тут, бо, як на дзіва, дзяўчаты, выходзячы на заняткі, прымкнулі дзьверы. Гуртам усе разам увайшлі ў хату. Бацькі Камоцкай горка заплакалі, угледзеўшы сіратлівы ложак свае дачкі. Матка Валі была мяккога характару і ўсё сьлязілася. Бацька, няпрыкметна выцершы сьлязінкі, што дрыжэлі на ягоных вейках, узяўся за работу: складваў рэчы, пакаваў, зьвязваў. Маці гаманіла з дзяўчатамі, распытвала пра дачку, як яе арыштавалі, за што, ці піша яна да іх і што яны думаюць будзе зь ёй. Дзічкоўская, як магла, угаварвала ня журыцца і напасьледак сказала, што можа яшчэ Валю й выпусьцяць. Лагоўская таксама спрабавала суцяшаць, гаворачы, што не адну-ж арыштавалі Валю, а шмат каго, на што маці Камоцкай адказала:

— А от вас-жа не арыштавалі!

— Можа яшчэ паарыштуюць, — пацешыла яе Дзічкоўская.

— Крый Божа, каб я хацела гэтага. Я гэта толькі так сказала.

— Пагаманіла й хопіць. Пара нам кратацца! — сказаў Валін бацька.

Стоячы ля парогу і гатовыя выйсьці, яны яшчэ раз дзякавалі, што Валіны рэчы засталіся цэлымі. Ад парогу яны прыкмецілі на сьцяне свой партрэт у рамачцы.

— Ідзі, стары, здымі! вай не назаляе паненкам. Досыць яны ўжо нагледзеліся на нас з табою.

Валін бацька зьняў рамачку, але мейсца, якое яна займала, цяпер выглядала бялейшым і чысьцейшым у параўнаньні з цэлай сьцяною.

— Бачыце, памяць аб вас усё роўна застанецца, — не сьцярпела й тут каб не пажартаваць Дзічкоўская.

Старыя выйшлі. На Валіным ложку застаўся цяпер толькі адзін парыжэлы матрац, падкрэсьліваючы й без таго пусьціню і няўтульнасьць у хаце.

За сьценамі хлюпацеў дождж, сек шыбы і дзяўчатам не хацелася ісьці на агульны сход, хоць і трэба было.

**(Далей будзе)**

*Заміж фэльетонаў*

# Што падумаў-бы Францішак Скарына

Уявеце сабе, паважаныя чытачы, што здарыўся цуд: наш выдатны гуманісты, прасьветнік і першадрукар — Францішак Скарына — устаў з мёртвых. Ачысьціўшы з сваіх шатаў векавую магільную цьвіль, ён пачаў хадзіць па роднай зямлі, прыглядацца да жыцьцёвых дробязяў сёньняшняга дня і вялікім розумам сваім разважаць над лёсам і справамі нашчадкаў. Як вам здаецца, якія думкі закружылі-б у ягонай галаве?

Я, паважаныя чытачы, уяўляю сабе гэта так: Скарына напэўна адразу зацікавіўся-б, як-жа ўзрасло й размножылася тое зерне, якое пры сваім жыцьці ён так шчодра сеяў для роднага «люду паспалітага». Мне здаецца, апынуўшыся ў Менску, Скарына разгарнуў-бы гарадзкую тэлефонную кнігу, запісаў-бы прыгожым кірылічным шрыфтам адрасы менскіх выдавецтваў «Навука й тэхніка», «Беларусь», «Зьвязда» й выдавецтва Акадэміі навук БССР, і, прыпадняўшы шырокія полы свае мантыі, шпарка пакрочыў-бы па вуліцы. Па дарозе ў менскія выдавецтвы ў Скарыны напэўна хутчэй білася-б сэрца — ужо ад аднае думкі, што ён зараз даведаецца, як-жа ідуць тыя справы цяпер, якім ён калісьці прысьвяціў сваё жыцьцё. Хваля ўспамінаў ўсплёснула-б у ягонай галаве. Скарына напэўна прыгадаў-бы:

«Калісьці аб'ехаў я паўсьвету, бачыў шмат народаў, але мяне заўсёды, як птушку да роднага гнязда, цягнула да роднае зямлі. Я знаў шмат моваў; рэдка хто тады знаў столькі, колькі я. Я знаў грэцкую й лацінскую, знаў чэскую й польскую, знаў італьянскую й нямецкую, знаў нават галяндзкую. Але наймілейшай была мне, усё-ж, мая родная. Я пазнаў і шанаваў усе эўрапэйскія старыя й новыя культуры, але ўсё сваё жыцьцё аддаў для прасьвятленьня свайго народу, для разьвіцьця культуры роднага краю. Я зразумеў, што сэнс усяго майго існаваньня будзе дасягнуты толькі тады, калі свой розум, свае веды, свае сілы я аддам свайму народу.»

« — Зараз буду ў менскіх выдавецтвах. Што там цяпер робіцца? — трывожыла-б думка Францішка Скарыну. — Ой, гэтыя кнігі! Яны часта майго мінулага жыцьця. Прага, Падуа, Вэнэцыя, Кракаў, Вроцлаў, — колькі я зь імі павазіўся па сьвеце! Урэшце абсталяваўся ў Вільні. Спраўней пайшла друкарская справа. Кнігі ў зразумелай роднай мове пайшлі ў народ. Прыгадваю: тады нашы ўсходнія суседзі друкаваць яшчэ ня ўмелі. Я падумаў сабе: 'лягчэй жыць з разумнымі й асьвечанымі суседзямі'. Я быў вялікі непаседа... Згадаў наладаваць воз кнігамі й друкарскімі прыладамі і накіраваўся ў Маскву. 'Хай, — думаю, — людзі навучацца, як зручней асьветчаць свой народ'... Сустрэлі мяне там ня добра. Сказалі, што я пішу незразумелай мовай, выкрыўляю зьмест сьвятога пісаньня... Спалілі мае кнігі й прылады. Я ледзь уцёк. Чуў. што гэта самае зрабілі пазьней і з маімі вучнямі Пётрам Мсьціслаўцам і Іванам Фёдаравам. Але прыемна, — падумаў-бы ўваскрошаны Скарына, — што, хоць з вялікім спазьненьнем, маю працу ацанілі і ў Маскоўшчыне. Гэта важна! Але яшчэ важнейшае пабачыць, што цяпер робяць нашы, менскія выдавецтвы».

Уявім сабе, паважаныя чытачы, што ў гэты мамэнт Францішак Скарына пераступіў парог менскага выдавецтва «Навука і тэхніка». Яго напэўна адразу насьцярожылі-б надпісы й плякаты на расейскай мове. Але. перамогшы першае расчараваньне, Скарына пачаў-бы цікавіцца глыбей. Я магу сабе дакладна прадставіць, як мянялася-б, пахмурнела-б аблічча Скарыны, слухаючы расказ кіраўніка Выдавецтва.

— Больш за палавіну кнігаў для беларускіх школаў выдаецца ў расейскай мове. Тыраж расейскіх кнігаў у 10-20-30 разоў перавышае тыражы кнігаў беларускіх. У кнігарнях Беларусі цяжка знайсьці кнігу беларускага аўтара ў арыгінале, у беларускай мове. Беларусаў змушаюць чытаць творы сваіх пісьменьнікаў у расейскім перакладзе.

Пра настрой, зь якім выйшаў-бы Францішак Скарына з выдавецтва «Навука і тэхніка», лепш і не здагадвацца. Але ў Менску ёсьць і іншыя «беларускія» выдавецтвы. Заглянуўшы ў свой бляклот, Скарына, можна прыпушчаць, выбраў-бы для свайго наступнага візыту адрас найбольш беларускага зь іх — выдавецтва «Беларусь». Не натужваючы асабліва фантазіі можна сабе ўявіць такое:

Увайшоўшы ў выдавецтва «Беларусь» і бегла азірнуўшыся па бакох, Скарына спачатку слупянее. Ягоны позірк прымацоўваецца да аднаго малюнку. Праз хвіліну аблічча Скарыны сьвятлее — на малюнку ён пазнаў самога сябе. Скарына падумаў: 'Жыве яшчэ душа ў народзе гэтым'. Асьцярожна адвярнуўшы вокладку кнігі, Скарына замірае ад зьдзіўленьня. На вокладцы ён чытае: «Георгій Скорына, історіческій роман, іздательство «Беларусь».» Толькі адно слова «Беларусь» напісана пабеларуску. «А чаму 'Георгій'? Можа гэта ня я. я-ж Францішак», — прамільгнула ў Скарыны думка. Перакінуўшы спрактыкаванай рукой некалькі старонак, паліглот Скарына прачытаў у расейскім тэксьце: «Георгій Скарына — сын Скарыны з слаўнага места Полацку». «Значыць, усё-ж такі гэта я! Але чаму-ж 'Георгій', калі ўжо беларускія навукоўцы сьцьвердзілі, што 'Георгій' — гэта памылка, абумоўленая няграматнасьцяй» — ня месьцілася-б Скарыне ў галаве.

Скарына напэўна папытаўся-б ці ёсьць такая кніга пра яго ў ягонай роднай мове. Яму-б пэдантычна адказалі, што пакуль-што не... магчыма будзе.

Няведама, ці пытаўся-б Скарына яшчэ пра што. Але ён напэўна падумаў-бы: «Вось і навучы суседзяў кнігі друкаваць. Яны могуць уявіць сябе разумнейшымі за свайго настаўніка. Могуць нават настаўніку рот закрыць. Якая чорная няўдзячнасьць!»

Прабачце, дарагія чытачы, што ў мяне ўжо не хапае фантазіі, уявіць сабе, што сталася з маім уваскрошаным Скарынам пазьней — пасьля ягонага дакладнага азнаямленьня з палажэньнем у менскіх выдавецтвах. Вельмі магчыма, што ён пасьпяшаўся-б хутчэй вярнуцца ў свой магільны сьвет. Таму вернемся й мы ў сьвет рэальнасьці. А раз так, дык растлумачваю, што ранейшыя сюррэалісычныя адхіленьні паўсталі ў мяне ў ходзе сачэньня за палемікай, якую вядзе газэта «Літаратура і Мастацтва» з рэспубліканскімі кніжнымі выдавецтвамі і ўстановамі, што імі кіруюць.

Выглядае, што газэта «Літаратура і Мастацтва» стараецца бараніць роднае слова, кнігу ў роднай мове. Сьмешна гэта гучыць: у сваёй быццам сувэрэннай і незалежнай дзяржаве, да таго-ж дзяржаве быццам сацыялістычнай, даводзіцца змагацца за родную мову! Ад гэтага мог-бы разрагатацца нават папуас. Але, нажаль, гэта так. Беларуская кніга, беларускае слова сабатуецца. І не абы кім, а вышэйшымі дзяржаўнымі ўстановамі, такімі, напрыклад, як Камітэт па друку пры Савеце Міністраў БССР. Пачытайце «адказ» гэтага Камітэту і адказ на гэты «адказ» рэдакцыі газэты, зьмешчаныя ў «Літаратуры і Мастацтва» з 16 жніўня, і вы ў гэтым пераканаецеся. Адказ рэдакцыі газэты канчаецца, між іншага, словамі:

«У канцы свайго 'аказу' вы нас вельмі ўзрадавалі: 'Камітэт па друку пры Савеце Мінстраў БССР і ў далейшым будзе імкнуцца больш поўна задавальняць попыт **усесаюзнага чытача** на лепшыя творы беларускіх пісьменьнікаў'. Так і хочацца запляскаць у ладкі. Вялікае, вялікае вам дзякуй! Толькі... Толькі, як ні дзіўна, хоча мець магчымасьць набыць патрэбную яму кнігу на роднай мове і наш **рэспубліканскі чытач.** Паверце — сапраўды хоча. І патрабуе. І справядліва патрабуе.»

Мне здаецца, што калі-б да старшыні Камітэту ў справе друку Канавалава ў сьне зьявіўся Францішак Скарына і адлупцаваў яго кіем — гэтага было-б замала. Баюся, што ня ўсё залежыць ад Канавалава. Дарэчы, цікава было-б ведаць, што думаюць пра гэта міністар культуры БССР Мінковіч і міністар асьветы Кісялёў?

**Ю. С.**

# Новая кампартыя ў Італіі

15-га кастрычніка перад адным трэцярадным гатэлем у Ліворно ў Італіі, сабраўся натоўп людзей. На балькон выйшаў чалавек і выкрыкнуў: «Заснавана марксыстаўска-ленінская камуністычная партыя Італіі».

Сёй-той ў натоўпе запляскаў, а нехта сьвіснуў. Так нарадзілася другая італьянская кампартыя. Заснаваў яе зьезд, які меў паседжаньні ў прыгаданым ліворнскім гатэлі. А чалавек, які выйшаў на балькон, каб урачыста абвесьціць навіну, быў новы партыйны лідэр Вінчэнцо Місэфары, былы камуністычны дэпутат парляманту. Аб іншых заснавальніках пакуль нічога паведаміць нельга: іхныя імёны трымаюцца ў таямніцы. Ведама толькі, што ў Ліворна з усіх канцоў Італіі зьехалася каля 200 чалавек, і што некаторыя зь іх і да сёньняшняга дня належаць да «традыцыйнай» кампартыі.

Стварылі новую партыю камуністыя, якія выйшлі з «традыцыйнай» кампартыі ў знак пратэсту супраць палітыкі ейнага кіраўніцтва. Не выпадкова яны назвалі новую партыю «марксыстаўска-ленінскай»: «кампартыя нумар адзін», на іхную думку, адмовілася ад навукі Маркса-Леніна й скацілася ў балота рэвізіянізму.

У гэтым-жа граху — на думку італьянскай кампартыі «нумар два» — вінаватыя КПСС і ўсе камуністычныя партыі, якія ідуць у ейным фарватары. Цэнтр сусьветнага рэвалюцыйнага руху перайшоў у Пэкін. І, як відаць, у падмацаваньне гэтага новага дагмату, на зьезьдзе ў Ліворно быў прысутны й адзін супрацоўнік альбанскага пасольства ў Рыме (КНР свайго прадстаўніка ў італьянскай сталіцы ня мае).

Цяжка акрэсьліць лічбовы склад «марксыстаўска-ленінскай» партыі. Відавочна, яна яшчэ невялікая.

Тым ня менш, кампартыя «нумар адзін» павінна лічыцца із зьяўленьнем праціўніка, які можа спрычыніць ёй шмат няпрыемнасьцяў.

Перш за ўсё, «канкуруючая фірма» выйшла на палітычную сцэну якраз у той час, калі кампартыя перажывае паважныя ідэялягічны крызіс, калі ейныя шэрагі няспынна радзеюць. Пэўна, далёка ня ўсе, што пакідаюць шэрагі кампартыі, увойдуць у шэрагі «марксыстых-ленінцаў», але самое зьяўленьне канкурэнта ўзмоцніць замяшаньне ў партыйных шэрагах, павялічыць лік тых, хто здае свой партыйны білет.

Апрача таго трэба чакаць, што новая партыя атрымае грашовую падтрымку з боку Пэкіну й Тыраны і зможа пашырыць сваю прапаганду.

А гэтая прапаганда будзе ўзьдзейваць на розум тых сямёх мільёнаў італьянцаў, якія на мінулых парляманцкіх выбарах падалі свае галасы за кандыдатаў, высунутых кампартыяй. Палеміка паміж камуністымі гэтак званай «старой школы» і «марксыстымі-ленінцамі» з шэрагаў новай партыі пакажа многім зь іх, што рацыі ня маеніводзін бок, і што іхная спрэчка — гэта ў нейкай ступені адлюстраваньне змаганьня за гегемонію паміж КПСС і Пэкінам. У Італіі няма глебы для грамадзянскай вайны і сацыяльнай рэвалюцыі. «Традыцыйная» кампартыя была вымушаная ўзяць пад увагу гэты няпрыемны для яе факт і адпаведна зьмяніць сваю праграму. Гэтым, у асноўным, і тлумачыцца параўнальна высокі лік атрыманых ёю галасоў на выбарах.

За новую «марксыстаўска-ленінскую» партыю прагаласуе, відавочна, нязначны лік выбаршчыкаў.

Але затое лёгка можа стацца, што ў выніку ўзаемных папрокаў і абвінавачаньняў дзьвюх кампартыяў многія зь італьянцаў, якія галасавалі раней за камуністых, аддадуць на будучых выбарах свае галасы сацыялістым.

Балазе, у сацыялістычным лягеры назіраецца якраз адваротны працэс: працэс паступовага зьбліжэньня і, у канчальным выніку, зьліцьця сацыял-дэмакратаў і сацыялістых Нэні.

Тое, што адбываецца ў Італіі, пэўна, ня вынятак: такі-ж крызіс перажывае бальшыня кампартыяў сьвету і ўвесь камуністычны рух у цэлым. І лёзунг які, звычайна друкуецца на першых старонках камуністычных газэтаў, — «Пралетары ўсіх краінаў злучайцеся» — пачынае набываць крыху гіранічнае адценьне.

# Залп «Аўроры» або завяртанскі «памфлет»

«На сабаччы брэх не глядзі,
а сваёй дарогай ідзі».

Хоць я й «бебурнацы», аднак лепш за бэсэсэраўскіх калябарантаў ведаю гісторыю іхніх гаспадароў — маскоўскіх бальшавікоў. У гэтым я лішні раз пераканаўся, калі з передавога артыкулу завяртанскага бюлетэню «Голас радзімы» пад № 923 нечакана дазнаўся, што:

«Залп «Аўроры» быў веснавым громам, абвясьціўшым аб наступленьні новай эры ў жыцьці народаў былоў царскай імпэрыі».

Слоў няма, занадта даверлівы, а можа й вельмі лісьлівы аўтар спасылаецца далей на куплет зь Пятруся Броўкі:

«Калі ударыла «Аўрора»
Кастрычніцкім асеньнім днём,
Пайшло у нас гудзець над борам,

Бы скалануў вясновы гром».

Але хіба-ж Пятрусь Броўка ўвогуле ёсьць аўтарытэт, і тым болей, што гэткая, даруйце, паэзія, усяго толькі кволы водгук цудоўнага «Тараса на Парнасе»? Ён-жа (Пятрусь, а не Тарас) зусім не настаўнік і правадыр міжнароднага пралетарыяту або гэніяльны мысьліцель і магутны карыфэй рэвалюцыйнае навукі. Ён (не Тарас, а Пятрусь) спачатку свае літаратарскае сьцежкі аж чатыры гады аціраўся па кутках літстаронкі «Чырвоная зьмены», пакуль нарэшце лукашы бэнды талакой не прапхнулі яго, як камсамольца, у «Маладняк». Зь цягам часу, напісаўшы нязьлічоныя гімны Сталіну й Маскве ды склаўшы безьліч даносаў Яжову й Бэрыі на бадай усіх запраўдных песьняроў Беларусі, ён дамогся, прабачце на благім слове, годнасьці народнага паэты БССР. Таму лепш, спакінуўшы кагадзе згаданага сталінскага лаўрэата на ягоных лыкавых лаўрах, зірнуць проста ў «Кароткі курс гісторыі УсеКП(б)». у якім на 199-ай старонцы, да ведама ўсяго блёку партыйных зь бяспартыйнымі, падаецца:

«Крэйсар «Аўрора» громам сваіх гарматаў, настаўленых на Зімні палац, апавясьціў 25 кастрычніка пачатак новай эры — эры Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі».

Дык дзеля чаго, пытаюся ў завяртанцаў, блытаць кастрычнік з траўнем. гнільлё ды зь кветкамі, уводзячы тым самым у блуд нават прагрэсыўных беларусіянаў з «Русского голоса»? Ці можа вы падбіраеце ўсе капаўкі зь вядомага расейскага ўрадоўца Папрышчына, які ў сваіх запісах спасылаўся на 86 сакавікобра? Але я адразу вычуваю лямант з боку крыху наразе рассупоненых прокшаў:

— А напляваць на той сталінскі кароткі курс ды яшчэ нагой расьцерці. Як толькі яе мосьць Масква вызваліла нас ад культу Сталіна, дык. мы, паводля ейнага ветлівага загаду, але ўсё-ж аглядаючыся па бакох, выкінулі ягоны курс сьвіньням на сьметнік. Аднак затое застаўся за ёй, а значыцца й за намі, той залп.

І пераходжу да залпу, што знайшоў адбітак у тагачасных газэтах. Раю чытачом адшукаць нумар «Праўды» ад 26 кастрычніка 1917 г., дзе на 4-ай старонцы зьмешчаны, загадзя ўскосна прызначаны завяртанцам, адкрыты ліст абураных матросаў з «Аўроры», у якім, між іншага, яны пішуць:

«Друк адзначае, што «Аўрора» адкрыла агонь па Зімнім палацы, але ці ведаюць паны рэпартэры, што агонь з нашых гарматаў не пакінуў-бы каменя на камені ня толькі ад Зімняга палацу, але й ад сумежных зь ім вуліцаў.

Да вас зьвяртаемся работнікі й салдаты г. Пятраграду! Не давайце веры правакацыйным чуткам. Хлусяць яны, нібы мы здраднікі й пагромшчыкі. Што датычыць стралаў з крэйсару, дык быў зроблены толькі адзін халасты стрэл з 6-дзюймовае гарматы.

Старшыня судовага камітэту
А. Белышаў
Тав. старшыні П. Андрэяў».

Адсюль для кожнага відавочна, што зашмульганы савецкімі прапагандыстымі залп «Аўроры» нішто іншае, як міт, хлусьня, мана. У запраўднасьці меўся адзіны пустастрэльны стрэл з аднае невялікае ўвогуле, як для крэйсару, гарматы.

Пэўна усё-ж ніхто не пачне атаесамліваць крэйсар «Айрору» зь бюлетэнем «Голас радзімы». «Аўрора» уяўляла зь сябе хоць і ўстарэлы, але яшчэ магутны вайсковы карабель, што меў на ўзбраеньні — восем 152-мілімэтравых, дваццаць чатыры 75-мілімэтравых, восем 37-мілімэтравых гарматаў ды чатыры тарпэдныя апараты. Што датычыць «Голасу радзімы», дык ён зьяўляецца нічым іншым як усяго толькі маскоўскай сабакарняй. Хіба вы ня чуеце, як асіплым барытонам гаўкае Прокша, як, нібы апараны варам, падвывае яму тэнарам Верашчака, як скавыча, вычэсваючы задняй правай нагой зь левага вуха блохаў дыскант Ражкоў-Ружыцкі ды як скуголіць заўчасна прапітай актавай безнадзейны алькаголік Стук? Узьняты імі гармідар цалкам нагадвае пусты стрэл «Аўроры».

І вось акурат у тым-жа самым нумары «Голасу радзімы», у перадавым артыкуле якога згадваецца... веснавы залп «Аўроры», зьмешчаны на 7-ай старонцы адпаведны яму твор — «Змагар» пнецца на п'едэстал. Над ім урачыста чорным па белым адзначана... памфлет. Між тым па сваёй форме, як і па зьмесце, ён нагадвае памфлет ня больш чым сугучныя яму па рытму — дуплет, кракет, банкет, шпінгалет, шкет, пісталет і г. д. і г. д. Ягоны аўтар Ражкоў-Ружыцкі, як і, дарэчы, яфрэйтар ад літаратуры Лявон Прокша (Шаксьпірэнка), аніяк ня ў стане зразумець, што, каб ствараць памфлеты, ім бракуе здатнасьцяў і культуры. Калі на сабачай будцы напісаць Эйфэлява вежа, яка ўсё роўна гэткай ня стане́цца. Дык навошта нагадваць таго балалаяшніка, які вырашыў людзям на сьмех выканаць на сваім начыньні сымфонію Бэтговэна?

Відаць, наўмысьля свой «памфлет» Ражкоў-Ружыцкі ахутвае эгіпецкай цэмрай. Таму для шараговага чытача застаецца зусім нязразумелым, хто такі змагар у двухкосьсях, што нібы пнецца на п'едэстал. Як і прычым, падумае ён, успамін пра Веру Харужую, якой штучна разьдзьмутай цяперашняй славе быццам зайздросьцяць «бебурнацы». Увогуле, што надзвычай характэрна для савецкіх дажывотных брахуноў, канцы тут, паводля ленінізму-прокшавізму, дбайна схаваныя ў брудную ваду, але я выцягну іх зараз навонкі.

У № 634 нашае добрае газэты «Бацькаўшчына» меўся артыкул Юркі Віцьбіча «Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў», прызначаны галоўным чынам разьвянчаньню культу новае савецкае сьвятое — Веры Харужае. Раімо паважаным суродзічам прачытаць або перачытаць гэты артыкул, каб пераканацца яшчэ раз, што чалавек для бальшавікоў нішто. Можна закатаваць яго ў савецкіх канцлягерох Сібіру, а потым «рэгабілітаваць», можна падвесьці яго пад гітлераўскую шыбеніцу, а потым надаць годнасьць героя СССР, абы толькі ўрэшцерэштаў перамог чарговы бальшавіцкі дыктатар.

І хто-ж з палітычных эмігрантаў пачне, як запэўнівае Ражкоў-Ружыцкі, зайздросьціць сумнай славе тых, каму ў СССР ставяць помнікі, надаюць розныя чыны й годнасьці або ўзнагароджваюць ардэнамі й мэдалямі? Бачылі мы за часы вайны, як ня немцы, а беларусы сьцягнулі ў Віцебску з пастамэнту Леніна, накінуўшы яму пятлю на шыю. Пазьней самымі бальшавікамі быў выпхнуты высьпяткам з маўзалею найвялікшы з найвялікшых — Сталін, ды адначасна былі зьнішчаныя ўсе ягоныя помнікі. Што датычыць драбнейшых правадыроў або правадырчыкаў, дык тым гэпэўшнікі ранейшыя пышныя ўзнагароды зьмянілі проста на кулю ў патыліцу. А чаго годныя шматлікія ардэны й мэдалі, калі цяпер іх дастаўляюць на разьмеркавальныя пункты аўтасамазвалямі?

Маскоўскі падлабызьнік Ражкоў-Ружыцкі згадвае помнікі на магілках людзей, закатаваных фашызмам. Чаму адначасна ня прыгадаць яму пра куды больш шматлікія ахвяры бальшавізму? Не кажу ўжо пра помнікі, але ніхто ня ведае дзе самыя магілы, у якіх ляжаць закатаваныя Масквай Цішка Гартны, Максім Гарэцкі, Уладыслаў Галубок, Міхась Чарот, Алесь Дудар, Уладзімер Жылка, Васіль Каваль, Міхась Зарэцкі, Уладзімер Хадыка, Тодар Кляшторны, Сымон Баранавых, Паўлюк Шукайла, Міхась Багун, Валеры Маракоў, Васіль Сташэўскі, Юлі Таўбін, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Сяргей Дарожны і шмат, шмат іншых, што зьяўляліся ісkракіднай аздобай Беларусі. У параўнаньні зь імі Пятрусь Броўка, як народны паэта БССР — цьфу!

Мы за часы вайны ставілі помнікі непахісным змагаром за Народ і Бацькаўшчыну, замардаваных камуністычнай партыяй і савецкім урадам. Мы адшуквалі і ўладкоўвалі брацкія й паасобныя магілы беларускіх антыбальшавіцкіх слаўных паўстанцаў і партызанаў, расстраляных чэкістымі. Мы — «бебурнацы» — стаялі ў ганаровай варце ля паруганых магілаў Ігнатоўскага й Чарвякова. Мы надавалі вуліцам і пляцам імёны вялікіх сыноў нашага народу — Францішка Скарыны й Кастуся Каліноўскага, якім там дагэтуль няма ніводнага помніка. І ўсё гэтае зразумела, бо мы змагаліся й змагаемся за Незалежную Дэмакратычную Беларусь, а не за БССР — калёнію савецкае імпэрыі, чырвонае Расеі.

І таму мы вельмі не падабаемся расейскім бальшавікам, чым ад шчырага сэрца ганарымся. Гэта-ж ніхто іншыя як яны загадываюць сваім убогім бэсэсэраўскім пустабрэхам:

— Цу, Прокша! Ату, Ражкоў! Піль, Стук!

**Юрка Віцьбіч**

# Мова Вялікага Кн. Літоўскага

**(Заканчэньне з 5-ай бач.)**

дзямі нацыянальнага ўсьведамленьня й адраджэньня. асабліва ў жыцьці культурным.

Справа тут зусім ясна. У той час, калі на заходніх беларускіх землях узьнікала новая дзяржава, на астальной тэрыторыі Беларусі існавалі княствы й вялікія гарады. Сярод іх былі такія буйныя гандлёвыя, палітычныя й культурныя цэнтры, як Полацак, Віцебск, Смаленск, Тураў, Пінск з багатым кніжным пісьменствам, з высокаразьвітым мастацтвам і архітэктурай. І калі ў 13-ым стагодзьдзі, у выніку манголататарскай небясьпекі, узьнікла патрэба тварыць новы палітычны цэнтар, ён і быў створаны ў Наваградку, на захадзе Беларусі. Таму й загаварыла новастворaная дзяржава на мове беларускай, на мове сваіх тварцоў.

**В. С.**



Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**